PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 42 (2162) Год XLII Беласток 19 кастрычніка 1997 г. Цана 1 зл.



*Пенсіянеры складаюць пераважную большасць жыхароў беларускіх вёсак Беласточчыны.* Фота Уладзіслава ЗАВАДСКАГА

## У нумары



Міхась Андрасюк

# Бар „У Алеся"

## 1. Раніца

Калі раніцой выходзіце на вуліцу, і калі гэтая вуліца называецца Кругагаловая, можаце заняцца гутаркай, любымі думкамі, можаце захапляцца архітэктурай, птушыным шчэбетам, ці яшчэ чым-небудзь. Кіраванне пакіньце нагам, а яны беспамылкова завядуць вас пад акуратненькі будыначак з белай цэглы, прыкрыты чырвонай шведскай бляхаю. Акружаны шматпавярховымі блёкамі, нізкі і прысадзісты, без лішніх пачуццяў прыніжанасці, магчыма найвышэй задзірае гэту сваю шведскую шапку. Гляньце яшчэ на шыльду: калі там напісана „Бар у Алеся", значыць — вы прыехалі. Астаецца толькі адкрыць дзверы, увайсці і прысесці за драўляным, лакіраваным на жоўты колер столікам. Нагам, за іхнюю беспамылковую працу таксама належыцца грунтоўны адпачынак.

У Алеся, пакуль што, вялікага натоўпу няма. Дзядзька Кандрат, калеяж на пенсіі, даўно справіўся з прыватнымі і службовымі справамі, заходзіць сюды часценька, бывае, што з самай раніцы. Гэта прыхільны і прыязны свету чалавек, не называйце яго толькі чыгуначнікам. Слова чыгуначнік гучыць у Кандратавых вушах зусім як анучнік, а гэтага ён вельмі не любіць.

Дзядзька Кандрат кожную гутарку пачынае больш-менш так:

— Мала плацяць. Каб мне, ведаеце, хаця адзін грош палічылі за кожны праеханы кіламетр...

Меркаваўшы па Кандратавых вачах, замглёных трошкі і знерухомелых, можна здагадацца, што не адзін калеярскі кіламетр боўтаецца ўжо ў ягоным страўніку.

— Міхась! — дзядзька Кандрат шчыра раскідвае рукі, бы сакратар Ярузельскі пабачыўшы сакратара Брэжнева, сыходзячага па лесвіцы з самалёта ТУ-154.

Мне радасна. Чалавеку заўжды робіцца прыемна, калі нехта заўважыць яго і вылучыць з ананімнага натоўпу.

— Давай сюды, Міхась, пагутарым. А ёсць аб чым, — дзядзька Кандрат глядзіць то на мяне, то зноўкі на апарожнены куфаль. — Мала плацяць, Міхась. Ой, мала, — апошнія словы адрасаваны — не ведаю — мне, ці куфалю, ці нейкім, непрысутным тут калеярскім міністрам.

Не скажу, каб перспектыва гутаркі з дзядзькам Кандратам цешыла мяне, прынамсі так, як ягонае ранейшае прывітанне. Мо паказалася мне, што дзядзька праехаў ужо сёння свой апошні кіламетр і пара яму высаджвацца на гэтым паўстанку, дзе працуе начальнікам Яго Вяльможа Сон.

І я — аказваецца — не памыляюся. У гэты момант нябачны начальнік хапае галаву свайго падначаленага, прыціскае яе да стала, і цяпер ужо абодва, злітыя ў адну постаць, стынуць нерухома, забываючы пра ўвесь акружаючы іх свет.

Побач акна, але і насупраць дзвярэй рассядаецца Каляровая Амэлька. Тут, так сказаць, знаходзіцца самы лепшы ў Алесевым прыбытку назіральны пункт. Амэлька можа назіраць і на дзверы, і на тратуар, што ўзяўшы пад увагу яе прафесію, мае вялікае значэнне. Не паспееш заварушыць клямкай, а галасней адзываецца Амэльчына васемнаццацігадовае сэрца. Кароценькая спаднічка, якая больш паказвае чым прыкрывае, бадзёра паднятая галава, грудзі бы дзве ракеты СС-20, нацэленыя ў дзверы і гатовыя да стрэлу. Вось табе і ўся Амэлька. Магутныя карпарацыі рэкламуюць свае вырабы па радыё і па тэлебачанні, плацяць вялікія сумы спецыялістам, а людзі і так робяць пстрык! „пілотам". Амэлька адначасова і выраб, і рэклама сваёй маленькай, аднаасобнай фірмы. Часам аставіць нейкія грошы ў цырульні або фітнес-клубе і гэта ўсё. Калі нехта мае выбіраць між шакаладам з альпійскага малака і Амэлькай, заўжды дабавіць некалькі злотаў і возьме гэтае другое. Аднак апошняй ночы Амэлька не ператалілася. Калі б было інакш, не сядзела б тут з белай раніцы, а як і ўсе яе сяброўкі адсыпала б звальваючую з ног, працавітую вахту.

Распазнаўшы маю асобу, Амэльчыны ракеты — ужо амаль выстрэленыя — пачалі раптоўна прызямляцца. Грошы пакінулі мяне раней чым жонка і Амэлька аб гэтым дасканала ведае. Паглядзіць яшчэ хвіліну ў мой бок і, канчаткова ўжо расчараваная, бяжыць

[працяг ☞ 5]

# Мы прачыталі

*Traktowanie posłów i senatorów w kategoriach nienormalności psychiatrycznej obrażałoby pacjentów szpitali psychiatrycznych, bo chorzy nie są ludźmi nieuczciwymi lecz cierpiącymi.*

*Polityka, nr 39*

* * *

*Zaraz po zaprzysiężeniu nowego rządu można spodziewać się zmian wojewodów i wicewojewodów. W Białymstoku AWS wespół z rządzącą miastem „Jednością" prawdopodobnie zechce powymieniać innych pracowników urzędu. Doświadczenie uczy, że podobnie jak 3 lata temu w Urzędzie Miejskim, kompetencje urzędników nie będą miały żadnego znaczenia.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 227*

* * *

*Падчас свайго візіту ў Кіеў Барыс Ельцын заявіў, што партнёрам з партнёраў для яго з'яўляецца Украіна. Не Беларусь, значыць. Ельцын сказаў таксама, што кожны дзень будзе пачынаць з думкі пра тое, што можа зрабіць для Украіны. Не для Беларусі, не для сваёй вернай саюзніцы і роднай сястры. Нас ужо ўсе перасталі ўспрымаць як поўнавартасны суб'ект міжнароднага права, як раўнапраўнага члена сусветнай супольнасці, — сказаў паэт Анатоль Вярцінскі.*

*Беларусь, н-р 8*

* * *

*Gdy Pawlak przestał być premierem, zaczął uprawiać w koalicji z SLD politykę opozycyjną. Był w niej z przymusu, za nic nie odpowiadał, spijał jedynie pokątnie najlepsze soki. Ten wampiryzm obrzydził Pawlaka społeczeństwu.*

*Kurier Poranny, nr 224*

* * *

*Беларусь і Казахстан маюць агульную нацэленасць на інтэграцыю, — заявілі прэзідэнты Аляксандр Лукашэнка і Нурсултан Назарбаеў.*

*Народная газета, н-р 197*

Безумоўна, гэта вялікае дасягненне знакамітых палітыкаў.

* * *

*У Польшчы да ўлады вяртаецца „Салідарнасць". Не адкрывае гэта перад беларуска-польскімі адносінамі ніякіх новых перспектываў. Наадварот, варта чакаць, што адчужанасць паміж Мінскам і Варшавай яшчэ больш узрасце. Імя лідэра „Салідарнасці" Марыяна Кшаклеўскага — звязана з гучным скандалам, калі паўтара года таму яго і яшчэ некальні дзеячаў „Салідарнасці" беларускія ўлады выдварылі з краіны. Цяпер Марыяна Кшаклеўскага чакае, калі не пасада маршала Сейма, то крэсла кіраўніка самай уплывовай парламенцкай фракцыі.*

*Звязда, н-р 177*

* * *

*Marian Krzaklewski ma do wyboru dwie drogi: może już dzisiaj rozpocząć rywalizację z Wałęsą o kandydaturę AWS na fotel prezydenta, albo też odsunąć ten bratobójczy spór w rodzinie solidarnościowej o dwa lata.*

*Życie, nr 225*

У палітычным жыцці не павінна быць нудна ў найбліжэйшы час.

* * *

*Czteroletnie rządy SLD przyniosły pożegnanie z nostalgią za PRL.*

*Gazeta Wyborcza, nr 226*

За выключэннем Беласточчыны.

* * *

*26-летний бизнесмен, пригласил на ноч двух незнакомых девушек, так утомился от приятного общества и презмерного возлияния спиртным, что заснул. Пробуждение было тяжелым. Потерял доллары, белорусские рубли ... и штаны.*

*Народная газета, н-р 197*

* * *

*У горадзе Масты, што на Гродзеншчыне Беларусь святкавала дажынкі. У праграме свята быў парад сельгасмашын. Яго прымаў сам прэзідэнт А. Лукашэнка, прэм'ер-міністр С. Лінг ды іншыя. Парадам прайшла тэхніка, што сёлета ўбірала збожжа. Такіх парадаў свету яшчэ не паказвалі. Беларусь стала ў гэтай галіне першай краінай.*

*Літаратура і мастацтва, н-р 38*

* * *

*Popierany przez „Radio Maryja" Piotr Krutul z listy AWS szedł do wyborów z hasłem: „Alleluja i naprzód". Prorocze hasło. Wygrał. Osiągnięciem Krutula w polityce było stworzenie w Sejmie kontraktowym kaplicy dla parlamentarzystów. Inny białostocki poseł AWS Waldemar Pawłowski, wiceprzewodniczący Rady Miejskiej, w stanie wojennym działał w Patriotycznym Ruchu Odrodzenia Narodowego jako przedstawiciel PAX-u. Był współpracownikiem sekretariatu ds. ideologicznych KM PZPR Stanisława Maliszewskiego.*

*Kurier Poranny, nr 224*

* * *

*Jeden głos księdza proboszcza znaczy więcej niż tysiąc ulotek.*

*Kurier Poranny, nr 224*

* * *

*Poseł AWS, przewodniczący ZChN, ma 43 lata. Uważa, że trzeba prowadzić taką politykę prorodzinną, by naród polski mógł liczyć 80 milionów. Sam jest starym kawalerem.*

*Gazeta Wyborcza, nr 224*

# З мінулага тыдня

**Кшыштоф Пэндэрэцкі** напісаў на юбілей 850-годдзя Масквы музычны твор для хору і аркестра „Слава святому Даніілу, князю маскоўскаму" па заказу прыватнага тэлеканала ТВ-6 Масква. Прапрэм'ера кантаты, у якой аснову пакладзены старажытнацаркоўныя матывы, адбылася ў Маскоўскай кансерваторыі, а сімфанічным аркестрам дырыжыраваў сам кампазітар. Публіка ўзнагародзіла твор гучнай авацыяй.

**Генрык Кроль** — старшыня Грамадска-культурнага таварыства немцаў і пасол Сейма сустрэўся з прэзідэнтам **Аляксандрам Кваснеўскім**. Лідэр сілезскіх немцаў пасля сустрэчы сказаў, што нямецкая нацыянальная меншасць, кіруючыся „прагматызмам і здаровым розумам" хоча падтрымоўваць усе дзеянні, якія „будуць добра служыць краіне". Заявіў ён таксама, што прасіў прэзідэнта, каб той па сваёй ініцыятыве прапанаваў будучаму Сейму праект закона аб нацыянальных меншасцях.

**Група нямецкіх настаўнікаў** па запрашэнні Кураторыі асветы прабывала на Беласточчыне. Мэтай візіту было азнаямленне гасцей з польскімі школамі і наладжанне двухбаковых кантактаў. Дырэктар Інстытута ўдасканальвання настаўнікаў **Ян Зенюк** выказаўся за стварэнне ў будучыні цэнтра ўдасканальвання германістаў, які дапамагаў бы настаўнікам нямецкай мовы ў паўночна-ўсходнім рэгіёне. Нямецкія госці наведалі таксама Гайнаўку і Белавежу.

**Група генералаў Народнага Войска Польскага** прад'явіла патрабаванне абнародаваць сакрэтнае абгрунтаванне рашэння Ваеннай пракуратуры аб спыненні следства па справе палкоўніка **Рышарда Куклінскага**. Генералы, сярод якіх ёсць былы прэзідэнт **Войцех Ярузельскі**, накіравалі ў гэтай справе адкрытае пісьмо начальнаму ваеннаму пракурору, а былы міністр нацыянальнай абароны **Пётр Каладзейчык** заявіў, што далейшае ўскладняннe заблытанай справы палкоўніка Куклінскага — бессэнсоўнае, паколькі быў ён амерыканскім шпіёнам і дэзерцірам. На думку экс-міністра, у сённяшняй палітычнай сітуацыі афіцэра, які ў 70—80-х гадах супрацоўнічаў з ЦРУ, можна толькі памілаваць, а не праслаўляць яго дзейнасць.

**Кантрольна-прапускны пункт у Баброўніках** на польска-беларускай мяжы ўвесь час разбудоўваецца. Толькі ў гэтым годзе чарговы этап будовы паглынуў звыш 17 млн. зл. Пакуль што КПП абслугоўвае толькі таварны рух, але ў снежні г.г. баброўніцкі пагранічны пункт стане абслугоўваць пасажырскі рух, а супольны кантроль турыстаў будзе праводзіцца на польскім баку.

**Міжнародны дзень бежанца і мігранта** адзначаецца ў нашай краіне 7 кастрычніка. З кожным годам у Польшчу трапляе штораз больш чужаземцаў. З канцом гэтага года пачне абавязваць новы закон аб чужаземцах, які адпавядае патрабаванням Жэнеўскай канвенцыі і сучасным стандартам міжнароднага права. Ад пачатку гэтага года ў паўночна-ўсходнім рэгіёне пагранічнікі затрымалі 420 нелегальных мігрантаў у 13 групах. У Беластоку дапамогу чужынцам нясе Інфармацыйнае бюро „Caritas", якое супрацоўнічае з Праваслаўным цэнтрам міласэрнасці.

**Аўтазаправачная станцыя „Статойль" у Беластоку** не абмяжоўваецца толькі да продажу бензіну, але праводзіць таксама акцыі па ахове навакольнага асяроддзя. Нядаўна пры ўдзеле маладых жыхароў квартала Зялёныя Узгор'і вакол АЗС пасаджаных было дзевяноста хваёвых кустоў, якія створаць метровай вышыні жывую агарожу.



# Весткі з Беларусі

**Сарваны візіт**

2 кастрычніка павінен быў пачацца афіцыйны візіт дэлегацыі Рэспублікі Беларусь на чале з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам у Ліпецк і Яраслаўль у Расеі. Але ён не быў ажыццёўлены, паколькі расейскі бок не даў дазволу на прыняццё аэрапартамі Ліпецка і Яраслаўля прэзідэнцкага самалёта. Пасля пяцігадзіннага чакання ў мінскім аэрапорце і спробе тэлефоннай размовы з Барысам Ельцыным беларускі прэзідэнт так і застаўся дома. Прэзідэнт Расеі, які ў той час знаходзіўся ў Ніжнім Ноўгарадзе, заявіў, што візіт можа адбыцца пры ўмове вызвалення з турмы дырэктара Беларускага бюро ОРТ Паўла Шарамета. Напярэдадні ён таксама губернатараў абласцей аб забароне запрашаць і прымаць кіраўнікоў іншых дзяржаў без згоды цэнтра. Два дні пазней на з'ездзе настаўнікаў у Менску Аляксандр Лукашэнка звярнуўся да генеральнага пракурора з патрабаваннем вызваліць Шарамета з турмы пад падпіску аб нявыездзе (журналіст маскоўскага тэлеканала ОРТ з'яўляецца грамадзянінам Беларусі). Пасля гэтага адвакатам было дазволена кантактавацца з арыштаваным журналістам. А 7 кастрычніка Павел Шарамет пакінуў гродзенскую турму і вярнуўся ў Менск.

**Неабходнасць прыватызацыі**

Сацыялагічная даследаванні экспертаў Міжнароднай фінансавай карпарацыі сведчаць, што жыхароў Беларусі ўсё больш прывабліваюць прыватныя прадпрыемствы. Больш за 70% удзельнікаў апытання праведзенага ў Менску лічыць прыватызацыю неабходнай. Чатыры гады таму ў канцы верасня ў рэспубліцы адбыўся першы аўкцыён па продажы аб'ектаў камунальнай уласнасці. Сёння прыватызаваны 41% прадпрыемстваў гандлю, грамадскага харчавання і бытава абслугоўвання.

**Чалавек года**

Міжнародны біяграфічны цэнтр у Кембрыджы кожны год прысвойвае званні „Чалавек года". Уладальнікамі яго становяцца людзі, якія сталі вядомымі ў розных галінах навукі, культуры і літаратуры. У спісе гэтых славутасцей нямала і беларусаў. З Англіі паступіла паведамленне, што чалавекам года ў галіне культуралогіі стаў прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францыска Скарыны, доктар філалагічных навук, пафесар Адам Мальдзіс. Ён — аўтар 12 кніг, частка з якіх перакладзена на рускую, літоўскую, польскую, нямецкую, англійскую, славацкую і іншыя мовы.

**Слаўны доктар**

Імя доктара тэхнічных навук, загадчыка аддзела Гомельскага інстытута механікі металапалімерных сістэм Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Алега Юркевіча зойме дастойнае месца ў сусветным даведніку „Людзі года". Паведамленне пра гэта вучоны дастаў са Злучаных Штатаў Амерыкі. Амерыканцы прызналі, што распрацоўкі Юркевіча ў галіне палімерных матэрыялаў і пакрыццяў апярэджваюць на ўсіх артыкулах іх уласных на тры-чатыры гады.

**Попыт на дзяцей**

У Менску адкрыўся Нацыянальны цэнтр усынаўлення. У яго спісах — больш за 20 тысяч сірот. Асноўная задача цэнтра — павышэнне попыту на дзяцей у грамадзян краіны. За мінулы год беларускія сем'і ўсынавілі 586 дзяцей. На выхаванне кожнага з іх дзяржаве спатрэбілася б каля 15 тысяч долараў.

**Злоўжыванне ў Хатыні**

Хваля ўсеагульнай камерцыялізацыі беларускага грамадства дакацілася нават да святыні — Дзяржаўнага мемарыяльнага комплексу Хатынь. У Менскім гарадскім судзе пачаўся разгляд справы аб злоўжыванні службовым становішчам кіраўніцтвам комплексу. На лаве падсудных — дзесяць чалавек, сярод якіх галоўны бухгалтар і дырэктар Хатыні. Ім інкрымінуецца злоўжыванне службовым становішчам, хабарніцтва і крадзеж маёмасці ў асабліва буйных памерах. На працягу некалькіх гадоў рахункі комплексу выкарыстоўваліся для незаконнай абнаяўкі грошай з камерцыйнымі банкамі. Канец беззаконню быў пакладзены ў жніўні 1994 года і вось цяпер ацэнку дзеянняў абвінавачваемых павінен даць суд.

# Жанчына-пчаляр

**Мёд — адзін з самых карысных і каштоўных харчовых прадуктаў. Абагачаны біялагічнымі актыўнымі рэчывамі мае супрацьзапаленчыя і іншыя лекавыя якасці. Рэкамендуецца пры язвах страўніка і дванаццаціперснай кішкі, пры нервовых, лёгачных, сардэчных і іншых хваробах. Пра мёд і пчалярства папрасіў я расказаць Ірыну МАРТЫНОВІЧ з Орлі — адзіную ў наваколлі жанчыну-пчаляра.**

— Пчалярствам пачала я займацца ў дваццацігадовым узросце. Спачатку ў Рудутах была я памочнікам у свайго бацькі, Марка Троца. З гэтага часу прайшло ўжо 27 гадоў. Калі бацька захварэў, прыйшлося працаваць на двух пчальніках адначасова. Цяпер у мяне ў Орлі 15 вулляў і рашыла перанесці іх у Рудуты і аб'яднаць у адну пасеку, паколькі варункі для пчол побач ракі Арлянкі аказаліся ненайлепшымі. Падмоклай тэрыторыі пчолы не любяць, часцей хварэюць, даюць менш мёду.

Найлепш пасеку трымаць побач лугоў, мешаных лясоў з буйным падлескам і наглебавым покрывам, ля садоў, палёў рапсу, у суседстве дрэў ліпы і акацыі. Летам пчолы збіраюць нектар з кветак грэчкі, чырвонай канюшыны, сумніку, верасу. Пчальнік павінен знаходзіцца ў сонечным, зацішным ад ветру месцы, а пчолы павінны мець доступ да чыстай вады. Трэба памятаць, каб пчол не падвяргаць атручванню і не трымаць вулляў у суседстве заводскіх комінаў ці шумлівых камунікацыйных шляхоў. Таксама важным з'яўляецца бяспека людзей у суседстве пчальніка (рэгулююць гэта адпаведныя законы).

Добры пчаляр павінен валодаць грунтоўнымі ведамі на тэму меданосных пчол і пчалярства, паколькі гэтай галіне сельскай гаспадаркі патрэба мала прылад і інвестыцый, але неабходны багаты вопыт. У невялікім пчальніку апрача вулляў патрэбны яшчэ дымар, долата, медагонка, сетка для аховы твару і камбінезон.

Найлепшымі лічацца драўляныя вуллі, якія вылучаюцца шчыльнасцю, не прамакаюць, засцерагаюць ад скразнякоў. Гэтыя якасці вельмі важныя восенню, зімою і вясною. Пасека павінна быць агароджана, каб чужыя людзі ці жывёла не трывожылі пчол. Вялікай пагрозай з'яўляецца таксама свойская птушка, якая дзяўбаннем у вулей выклікае ў зімовы час шкодныя пчалінай сям'і рэакцыі.

Вясною трэба правесці два агляды пчаліных гнёздаў. Уступны агляд праводзіцца ў канцы сакавіка або пачатку красавіка з мэтай праверыць прысутнасць плоднай самкі (царыцы), лічынак, запасы мёду і велічыню гнязда. Такі агляд трывае коратка, каб не выстудзіць гняздо. Другі, асноўны агляд адбываецца намнога пазней, калі тэмпература паветра на працягу некалькіх дзён перавышае 16°С. Пчаляру павінен тады спадарожнічаць памочнік, паколькі трэба тады як мага найхутчэй зарыентавацца ў ходзе развіцця пчаліных сем'яў, правесці іх класіфікацыю і ўпарадкаваць соты. На агляд кожнага гнязда трэба адвесці сама меней 15 хвілін.



Адным з самых радасных момантаў у пчалярскай працы з'яўляецца медазбор. У добрым годзе можа быць некалькі медазбораў у сезоне. Асноўнай дзейнасцю ў гэтым працэсе з'яўляецца адпампоўванне мёду з сотаў пры дапамозе медагонкі. Поўнасцю спелы, скрышталізаваны мёд у шчыльнай упакоўцы і ў тэмпературы 6—12°С захоўвае свае якасці на працягу некалькіх гадоў.

Людзі панічна баяцца ўджалення. Пчаляр апаноўвае гэты страх. Мінае ён ужо на пачатку кантактаў з пчоламі, асабліва тады, калі брацъ прыклад з вопытнага майстра пчалярскай справы. Далікатныя рухі і адпаведнае абкурванне пасяхова ахоўваюць перад вострым і балючым пчаліным джалам.

Хаця пчаляры прывыклі наракаць ды прыбядняцца, аднак мёд у іх ёсць заўсёды. Хутчэй турбавацца трэба тым, што рады пчаляроў не папаўняюцца маладымі кадрамі, а я сама ў сваёй шматгадовай практыцы не сустрэла сяброўкі па прафесіі. А ў народзе кажуць, што калі прападуць пчолы, тады і людзі загінуць.

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Інвестыцыйны зрух у Гайнаўцы

Многія жыхары ўжо і па пятнаццаць гадоў чакаюць тэлефона і мараць пра газ з трубаправода. Людзі наракаюць, што попел з кацельняў сыплецца на іх галовы і чысценькія аўтамабілі.

Зрух з тэлефонамі пачаўся ўжо летам, калі прадпрыемства „Рэтэль", якое мае намер падключыць усіх ахвотных да тэлефоннай сістэмы, купіла ўчастак зямлі ў цэнтры горада і пабудавала мачту вышынёю шэсцьдзесят метраў. Польская тэлекамунікацыя (манапаліст на айчынным рынку) урэшце таксама рашылася пачаць інвестыцыі навыперадкі з новым прадпрыемствам. Жыхары задумваюцца — колькі яшчэ гадоў мусілі б чакаць тэлефонаў ад дзяржаўнага манапаліста, калі б не „Рэтэль". Абедзве фірмы пракладаюць па Гайнаўцы кабелі, хаця лідзіруе прыватнае прадпрыемства (паставілі ўжо сучасную лічбавую тэлефонную станцыю, якая мае гарантаваць добрую якасць размоў). Панам стаў кліент, які можа капрызнічаць выбіраючы таго, хто паставіць яму тэлефон.

Невыносьлівым для жыхароў становіцца попел з кацельняў, а іх у горадзе вельмі многа. Пабудова цэнтральнай кацельні застаецца толькі на паперы, хаця і ў гэтай справе пачаліся ўжо раскопкі. Плануецца ліквідаваць у гэтым годзе адну кацельню ў цэнтры горада, а кватэры ацяпляць будзе прадпрыемства „Фурнэль". Справу глабальнага ацяплення горада маглі б вырашыць газ і дадатковыя грошы на экалагічную інвестыцыю з фондаў зацікаўленых чыстай Белавежскай пушчай. Пакуль што, газ і грошы яшчэ не дайшлі. У цэнтры горада, і не толькі, гайнаўляне сустракаюць працаўнікоў у аранжавых кашулях. Перад прыездам прэзідэнта Аляксандра Кваснеўскага і кіраўніка ўрада Владзімежа Цімашэвіча перабудавалі і размалявалі скрыжаванне вуліц Аляксея Зіна і 3-га Мая. Не засталіся ззаду электрыкі, якія праводзяць капітальны рамонт энергетычнай сеткі, якому спадарожнічаюць нейкія раскопкі. Згадаць яшчэ трэба працаўнікоў, якія будуюць водаправоды, рамантуюць вуліцы і тратуары.

Значыць, прыйшоў час раскопак і ў Гайнаўцы. Каб толькі кожны жыхар мог „выкапаць" з гэтага як найбольш карыснага.

**Аляксей Мароз**

# Прыбралі

У чацвёртым выпуску акцыі „Прыбіранне свету — Польшча '97" традыцыйна ўдзельнічалі школы Дубіцкай гміны. Раней школы дамовіліся з Управай гміны наконт таго, дзе трэба навесці парадкі. Старшакласнікі са Старога Корніна пад апекай Васіля Сегеня, Вінцэнта Мартынюка і Уладзіміра Петручука прыбралі дарогу з Дубіч-Царкоўных у Старое Корніна. Удзельнікі акцыі, узброеныя рыдлёўкамі, закопвалі сабранае пры дарозе смецце. А назбіралася яго трыццаць 60-літровых мяхоў. Малодшыя вучні прыбіралі пляцы вакол школы і царквы. Акцыя закончылася пячэннем бульбы ў вогнішчы. Бацькоўскі камітэт забяспечыў дзеткам каўбаскі, а Бельскае надлясніцтва падаравала пакет цукерак і насценныя календары.

Вучні з Дубіч-Царкоўхных выйшлі на акцыю ў пяці групах. Першакласнікі пад кірункам выхавацелькі Ірэны Наўроцкай прыбіралі школьную пляцоўку і праваслаўны могільнік. Класы II-III з выхавацелькамі Галінай Бількевіч і Бажэнай Маркевіч прыбіралі вуліцы: усю Парковую і частку Галоўнай ды наваколле Гмінная управы. Вучні з IV і V класаў пад апекай Івоны Сяроцкай-Тваруг і Марыі Казімірук збіралі смецце вакол вадасховішча Бахматы, а шасці- і сямікласнікі пад кірункам Юрыя Несцерука і Яна Далінскага прыбіралі „турыстычны" маршрут з чыгуначнай станцыі ў Вітаве да вадасховічша. Восьмы клас, узначалены выхавацелем Уладзімірам Місеюком і ніжэйпадпісаным, ачышчаў шашу з Істока ў Дубічы-Царкоўныя. У сабраным смецці пераважалі пластмасавыя ўпакоўкі, банкі і бутэлькі. Моладзь знаходзіла таксама аўтамабільныя шыны і каўпакі, вёдры. Назбіралася гэтага „дабра" амаль семдзесят 60-літровых мяхоў і двухколавая прычэпа ўсялякай драбязы. У акцыі ўдзельнічалі таксама ляснічыя Ірыней Рошчанка і Збігнеў Краўчанка з Бельскага надлясніцтва.

Пасля заканчэння акцыі смецце транспартам гэтага ж надлясніцтва было завезена на звалку ў Дубічах, а ўсе дзеці сустрэліся пры вогнішчы ля вадасховішча, дзе ляснічыя частавалі булачкамі і каўбаскай ды раздавалі насценныя календары з экалагічнай тэматыкай. Акцыі прыбірання наваколля спадарожнічала прыгожае надвор'е. У якасці ўзнагароды вучнёўскае самакіраванне супольна з сёмым класам наладзіла ўдзельнікам акцыі дыскатэку.

**Славамір Кулік**

# Як прадаюць крамы

За часоў ПНР, калі старшынёй ПЗГС у Гайнаўцы быў вядомы беларускі дзеяч Канстанцін Майсеня, па вёсках сталі будаваць прыгожыя крамы. Жыхары вёсак усе простыя работы выконвалі тады грамадскім пачынам (капалі равы пад фундаменты, вазілі жвір, каменне, цэмент і рабілі фундаменты, вазілі будаўнічыя матэрыялы і дапамагалі пры рабоце). Прыемна было потым зайсці ў краму, у якой была частка сваёй працы.

Памянялася ўлада, памяняўся дзяржаўны лад. Абанкруціўся ГС у Нарве і пачалі распрадаваць ягоную маёмасць. У Агародніках краму прадалі толькі за 1 000 злотаў. Краму будавала вёска. Прадалі яе за бясцэнак, хаця вёска не мае дзе скліқаць вясковы сход і людзі па чарзе збіраюцца ў паасобных гаспадароў. Таксама ў Бялках краму прадалі за 1 000 злотаў. Цікава, калі мой допіс прачытае сп. Канстанцін Майсеня, ці яму сэрца не абліецца крывёю, што яго труд ідзе на змарнаванне, а хтосьці за гэта сабе набівае кішэні. Для мяне ўсё гэта — незразумелае.

Цяпер ужо па вёсках нікога не падмовіш арганізаваць грамадскія пачыны. Самі мы бачым, як наша праца не шануецца, а ўсё за бясцэнак прадаецца і няма каму за нас заступіцца.

**Мікалай Лук'янюк**

# Ахоўвалі ад пажараў і пакражы

**Пра вясковую самаахову ў пасляваенныя гады расказвае 74-гадовы жыхар Дэніскаў Іван Врублеўскі.**

У 1942 годзе немцы вывезлі мяне ў Германію, адкуль вярнуўся я ў 1945 годзе. Сталі ў нас хадзіць тады банды. Трэба было абараняцца ад іх. Запісаўся я ў армоўцаў, у нашай вёсцы было нас трыццаць чалавек. Кожную ноч, ад змяркання да раніцы, пільнавалі мы вёску ад пажараў і пакражы. Хадзіла варта, чатыры мужчыны: два патрулі па два чалавекі — адзін армовец і адзін цывільны. Армоўцы мелі зброю: гранаты, аўтаматы і вінтоўкі; хадзілі ў мундзірах і ў сваёй вопратцы. Больш за дзесяць разоў паднімалі трывогу — білі ў рэйку. Злачынцы палілі стагі з сенам над Арлянкаю, раз і клуню ў вёсцы падпалілі. Адганялі іх самі. Варты былі ў кожнай вёсцы; на Плютычы і Райск банды нападалі часцей. Ездзілі таксама армоўцы на акцыі супраць бандаў у Бранск, Цехановец, Вышкі. Падчас рэферэндуму „Тры разы так" ахоўвалі мы выбарчы ўчастак у Гацьках. Пасля таго рэферэндуму банды перасталі хадзіць, і мы перасталі трымаць варты і здалі зброю. Мне, дарэчы, ніколі не давялося тою зброяй карыстацца.

**Запісаў Аляксандр Вярбіцкі**

# Не толькі для турыстаў

У суботу, 4 кастрычніка г.г., па вуліцы Парковай у Дубічах-Царкоўных адбылося адкрыццё бара „Сена", якога ўладальнікамі з'яўляюцца Бажэна і Сцяпан Кірылюкі. Гэта першы такога тыпу аб'ект у Дубічах, але не апошні. Цяпер пры шашы Гайнаўка—Кляшчэлі праводзіцца рамонт і прыстасаванне колішняй ГСаўскай крамы на пункт грамадскага харчавання.

**Славамір Кулік**

# Мова дзяцей і моладзі ў беларускіх сем'ях

*(працяг, пачатак у 39 нумары)*

Калі я пісаў першы артыкул пра мову дзяцей і моладзі ў Дубічах-Асочных, я яшчэ не быў упэўнены, ці будзе працяг. Размовы з сябрамі і вучнямі беларускага ліцэя паўплывалі на маё зацікаўленне з'явамі ў нашай мове.

Па гэтай прычыне я заехаў да іншага абітурыента Гайнаўскага беларускага ліцэя — Андрэя Хворася, які пражывае ў Збучы, што ў гміне Чыжы. Цяпер ён першакурснік беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.

— Калі я ішоў у ліцэй, старэйшыя хлопцы сказалі: „Не чайся і гавары заўсёды па-беларуску, так як і мы гаворым", — катэгарычна сцвярджае Андрэй. — Я і сам ведаў, што можна гаварыць па-свойму.

Іншыя вучні з класа Андрэя гаварылі, што амаль заўсёды размаўляў ён пасвойму, нават з тымі, якія звярталіся да яго па-польску.

— Бацькі ніколі не вучылі мяне гаварыць па-польску. Толькі ў пачатковай школе я пачаў больш дакладна вывучаць гэтую мову, — успамінае з задумай суразмоўца. — У школе ў Чыжах таксама заўсёды гаварылі між сабой па-беларуску.

Бачу, што па вуліцы бегаюць дзеці і пытаю, як яны размаўляюць.

— Некаторых малых вучаць гаварыць толькі па-польску, а некаторых — па-свойму і па-польску, — адказвае на маё запытанне студэнт са Збуча. — Але калі слухаю на вуліцы, размаўляюць між сабой па-свойму, адны лепш, другія горш, але прабуюць.

Размаўляючы пра вучняў, успамінаем таксама і старэйшых за майго субяседніка, якіх я ведаю асабіста.

— О, старэйшыя за мяне былі такімі прыхільнікамі сваёй мовы, што не дазвалялі размаўляць з сабой па-польску. А калі ячшэ выпілі, святкуючы, і хтосьці адазваўся па-польску (нейкі сваяк, які прыехаў з горада), дык тлумачылі, каб пачынаў гаварыць па-свойму, бо павыбіваюць зубы, — успамінае з усмешкай Андрэй.

Уцягнуўшыся ў дыскусію, мой суразмоўца пачынае яшчэ ўспамінаць нядаўнія ліцэйскія гады.

— Усе прывыклі, што ў ліцэі я гавварыў толькі па-свойму, а яны мяне ўсе разумелі. Памятаю, аднак, што быў адзін, які адбуркваў: „Не гавары на нейкай булгарскай мове, бо не разумею", — прыхмурыўшы вочы ловіць у думках словы з мінулага абітурыент. — Калі выпілі ў сваёй кампаніі, дык заўсёды хлопцы пачыналі гаварыць пабеларуску, нават тыя з Гайнаўкі, хаця атрымлівалася беларуска-расейская трасянка. Лічылі сябе беларусамі, дык стараліся.

Свае разважанні аб мове ў Чыжоўскай гміне рашыў я папоўніць размовамі з Ярасланам Бялькевічам — спеваком з чыжоўскага калектыву і Галінай Більскевіч — настаўніцай.

— Як я чую, у Чыжах дзеці гавораць па-свойму, — коратка заяўляе першы суразмоўца. — Вось дачка майго брата Геніка, дык размаўляе па-свойму.

— Наймалодшых вучаць гаварыць па-свойму і па-польску, гэта залежыць ад бацькоў, але часцей па-свойму, — расказвае настаўніца з Дубіч-Царкоўных, якая пражывае ў Чыжах. — У школе ў Дубічах толькі старэйшыя гавораць на перапынках па-свойму. Малодшыя, хаця і ведаюць сваю, выбіраюць польскую мову.

Размовы ў дзвюх суседніх гмінах ствараюць яшчэ даволі аптымістычны вобраз, аднак, у многіх іншых рэгіёнах умовы развіцця беларускай дыялектнай мовы намнога горшыя.

*(працяг будзе)*

**Аляксей Мароз**

# Зыход консула

У кастрычніку г.г. сваю дыпламатычную місію закончыў **Міхаіл Слямнёў** — генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку. У дыпламатычным прадстаўніцтве ў Беластоку праслужыў ён два з паловай года. У яго адкліканні — як сам сказаў на прэс-канферэнцыі, склікананай 3 кастрычніка — няма ніякіх надзвычайных акалічнасцей. Тры гады службы — гэта ў дыпламатыі нармальны тэрмін, а ён ніякага кантракту з міністэрствам замежных спраў РБ не заключаў, у сувязі з чым тэрмін яго службы ў Беластоку не быў нідзе зафіксаваны.

Цяжка тут, аднак, паўстрымацца ад заўвагі, што адкліканне М. Слямнёва супадае са зменай кіраўнічага палітычнага лагера ў нашай краіне. М. Слямнёў пагадзіўся, што ў сапраўднасці так яно мaецца. У сваёй службе, якая ўключала і кантакты з польскай урадавай адміністрацыяй, меў ён дачыненне з чыноўнікамі, якія выводзіліся з сацыял-дэмакратыі. Калі б яму давялося працягваць надалей сваю місію ў Беластоку, дык у сувязі з непазбежнымі зменамі ў гэтай жа адміністрацыі, усе кантакты трэба было б устанаўляць нанава. Гэта аднак ужо задача новага консула — адзначыў М. Слямнёў.

Падводзячы рысу двух з паловай гадоў сваёй дыпламатычнай службы ў Беластоку, М. Слямнёў сказаў, што ён усведамляў сабе, што праца тут будзе цяжкай — практыка аднак паказала, што жыццё куды больш складанае за ўсякія спадзяванні. У складанасці сваёй працы ён улічыў: пагранічныя пераходныя пункты (усе яны на абшары правамоцтваў беластоцкага консульства), кантакты з беларускімі арганізацыямі, адносіны паміж Касцёлам і Царквою тут, а таксама і факт неакцэптацыі палітычнымі коламі Польшчы сітуацыі ў Беларусі. У ліку дасягненняў беластоцкага консульства за час сваёй службы ў Беластоку М. Слямнёў назваў выпрацоўку праграмы юрыдычнай дапамогі грамадзянам Беларусі, якія апынуліся ў Польшчы.

Ацэньваючы адносіны Польшчы і Беларусі, М. Слямнёў назваў іх „здавальняючымі" ды дапоўніў, што Польшча, як краіна, дасягнула ўжо той узровень развіцця дэмакратыі, калі змена палітычнага лагера, які кіруе дзяржавай, не наносіць істотных змен у яе замежную палітыку. Аднак факт, што лідэр палітычнага лагера, які перамог на парламенцкіх выбарах у Польшчы быў выкінуты з Беларусі напэўна не паспрыяе аціпленню адносін паміж абедзвюма краінамі, — адзначыў М. Слямнёў.

М. Слямнёў не вырашыўся яшчэ, чым будзе займацца пасля вяртання ў Мінск. Ёсць тут, — сказаў, — тры магчымасці: далейшая дзяржаўная служба, выкладчыцкая праца ды прапанова *цывільнай* працы ў Беластоку. Напэўна аднак не будзе ён парываць лучнасці з Беласточчынай, на якую хоча ў будучыні прыязджаць як турыст.

**Аляксандр Максімюк**



# Палітыка, палітыка

Пасля нуднай і ялавай выбарчай кампаніі перад парламенцкімі выбарамі пераможцы пачалі цяпер дзяліць палітычныя трафеі. Зараз ідзе змаганне за міністэрскія і іншыя чыноўніцкія крэслы. За канкрэтнымі людзьмі стаяць ужо менш канкрэтныя палітычныя сілы і зусім невыразныя інтарэсы. Ужо цяпер распрацоўваецца вялікі бізнесплан, які магчыма на некалькі бліжэйшых гадоў акрэсліць шляхі перамяшчэння фінансавых сродкаў. У тутэйшым капіталізме палітычная ўлада вырашае каму і колькі забраць, а каму даць. Таму кожныя выбары гэта вялікая гонка вялікіх палітычных сіл да вялікай касы. Хаця ў ходзе выбарчай кампаніі ўсе лідэры гавораць пра сваю безупынную заклапочанасць лёсам беднага люду, пару тыдняў пазней цалкам шчыра забываюць тое, аб чым раней з такім энтузіязмам абяцалі сваіму электарату.

Яшчэ не паспела Выбарчая камісія абвясціць канчатковыя вынікі выбараў у Сейм і Сенат, а ўжо пачалася выбарчая кампанія за пост прэзідэнта Рэчы Паспалітай. Пераможца ў гонках на Вейскую, лідэр „Салідарнасці" Мар'ян Кшаклеўскі раптам стаў галоўным кандыдатам у кватаранты Бельведэрскага палаца. Яго патэнцыяльныя канкурэнты — асабліва Лех Валенса і Аляксандр Кваснеўскі — найбольш ахвотна бачылі б Кшаклеўскага прэм'ер-міністрам. Нягледзячы на тое, хто будзе ці быў бы пры ўладзе, эканамічная сітуацыя жыхароў Польшчы ў найбліжэйшы час пагоршыцца. Рэформу горнай прамысловасці, аховы здароўя, сістэмы сацыяльнага забеспячэння ўрад проста вымушаны рэалізаваць як найхутчэй. Далейшае замаруджванне пагражае яшчэ большымі фінансавымі клопатамі. Такіх вырашэнняў чакае Еўрапейскі Саюз, у якога структуры намерылася ўвайсці Польшча. Трэба будзе таксама затраціць немалыя грошы на пераарыентацыю арміі і дапасаванне яе да натаўскіх стандартаў. За ўсё трэба будзе грамадзянам плаціць у выглядзе пасрэдных і непасрэдных падаткаў. Шэф урада ў такой сітуацыі не мае вялікіх шанцаў на прэзідэнцкіх выбарах, аб чым ведае Кшаклеўскі, рашучы адкідаючы прапановы саюзнікаў і ворагаў стаць прэм'ер-міністрам.

Кшаклеўскі, якога год таму Лукашэнка выдварыў з Беларусі, з'яўляецца цяпер у Польшчы адным з найважнейшых палітыкаў. Магчыма, што пасля прэзідэнцкіх выбараў стане першым. Гэта абазначае, што ў найбліжэйшых гадах паміж лукашэнкаўскай Беларуссю і Польшчай адносіны будуць толькі яшчэ больш ускладняцца.

**Яўген Міранович**

# Як у Дубічах парламентарыяў выбіралі

У Дубіцкай гміне на трох выбарчых участках у Дубічах-Царкоўных, Войнаўцы і Старым Корніне галасаваць мела права 2021 выбаршчык. Аднак выбарчым правам пакарысталася толькі 43,2% грамадзян і гэты паказчык аказаўся ніжэйшым за краёвы і ваяводскі.

За кандыдатаў у Сенат прагаласавала 874 чалавек, але 47 галасоў аказаліся няважнымі. Найбольш прыхільнікаў было ў Ядвігі Казімеры Рудзінскай-Патэюк, якая атрымала 403 галасы (46,1%). За ёю апынуліся Міхал Кандрацюк — 348 галасоў (39,8%) і Ян Тапалянскі — 225 (25,7%), а таксама Станіслаў Чэрэп — 217 (24,8%), Мацей Заблоцкі — 91 (10,4%), Анна Маркова — 57 (6,5%), Аляксандр Усакевіч — 51 (5,8%), Гжэгаж Рыкоўскі — 47 (5,4%), Станіслаў Марчук — 31 (3,5%), Рамуальд Гайдучэня — 23 (2,6%) і Ян Хайноўскі — 22 (2,5%).

За кандыдатаў у паслы Сейма прагаласавала 872 асобы, але 40 галасоў аказаліся няважнымі. Найбольш галасоў атрымалі тры выбарчыя камітэты: СЛД — 423 (48,5%), Унія працы — 204 (23,4%) і ЗСНМ Праваслаўныя — 140 (16,1%). Іншыя групоўкі атрымалі зусім нязначную патрымку: напрыклад, Блок для Польшчы — 13 галасоў, ПСЛ — 10, астатнія — менш дзесяці.

Паасобныя кандыдаты атрымалі такую вось колькасць галасоў: Уладзімеж Цімашэвіч — 374 (42,9%), Яўген Вапа — 178 (20,4%), Уладзімір Петручук — 47 (5,4%), Яўген Чыквін — 41 (4,7%), Віктар Рэнт — 28 (3,2%), Сяргей Плева — 19 (2,2%), Антон Мірановіч — 12 (1,4%), Ян Сычэўскі — 11 (1,3%), Тадэуш Скачынскі — 7 (0,8%). Пералічаныя кандыдаты прадстаўляюць тры выбарчыя камітэты: СЛД, УП і Праваслаўных. Менавіта яны атрымалі ў Дубіцкай гміне падтрымку 767 выбаршчыкаў (87,9%). Падобныя вынікі былі ў многіх гмінах усходняй Беласточчыны. Вывады зрабіце самі.

**Славамір Кулік**

# Спалілі, каб відна было

**Пра бежанства ў час І сусветнай вайны расказвае Даніла Міранюк з Дэніскаў, народжаны ў 1902 годзе.**

Уся наша вёска, Дэніскі, падалася ў бежанства ў 1916 годзе. Дабраліся мы да Бабруйска. Там нашаму бежанскаму камітэту прызначылі поезд, які даставіў быў на перадавую транспарт для фронту і вяртаўся на тыл. Поезд быў з Самары, і ў Самару нас завёз. Там камітэт рассыпаўся, а бежанцы падаліся хто куды. Мы апынуліся ў вёсцы шэсцьдзесят кіламетраў за Бузулукам. Бацька пайшоў у маёнтак быдла пасвіць, а я пайшоў у школу; закончыў там адзін клас. Спачатку давалі нам хлеб, суп, пасля грошы, а потым то і нічога не стала; рэвалюцыя была ў *зародку*. Вярнуліся мы ў Самару. Бацька стаў на працу на водаправодзе. Знайшоў жыллё на ўскраіне горада, летні домік. У Самары я закончыў другі клас і гэта была ўся мая адукацыя.

У 1918 годзе Расія падпісала з Германіяй Брэсцкі мір і бежанцы атрымалі дазвол на вяртанне на тэрыторыю, што была пад немцамі. Нас у Самары сабралася дзесяць сем'яў, цэлы вагон, і ў маі 1918 года адправіліся на радзіму. Прыехалі ў Оршу, а ў Мінск нас не пусцілі, бо там нямецкая граніца была. То мы аж на Украіну паехалі, бо ўкраінцы Скарападская далі нам, бежанцам, магчымасць вярнуцца. Орша, Белая Цэркаў і ў Бельск. Грошай не плацілі, украінцы перавозілі нас дарам, ваенным правам.

Наша вёска амаль уся была спалена, у тым наш канец вёскі. У вайну тут рускія адступалі перад немцамі і спалілі; больш рускія чым немцы — каб відна было. Асталося крыху хатаў, крыху клуняў. І жыло ўжо некалькі сем'яў, бо адзін транспарт раней за наш прыехаў. І мы так жылі на чужым: прыедуць гаспадары — уцякай! Так бадзяліся мы аж да дваццаць першага года. У дваццатым *жонд* даў дваццаць фасметраў дзерава з Белавежы. Бацька з братам сплавілі яго да нас на Нарву і перавезлі ў вёску. Парэзалі, памагаў ужо і я, і ў 1921 годзе паставіў бацька сваю хату.

Хлява тады не ставілі, бо не было каму. Бацька ўзяў ад немцаў каня, якога ніхто не хацеў, бо з каростаю быў. Праз паўтара года нажылі двое парасят, а па пяці гадах купілі ў Бранску ялошку і з яе разводзілі быдла. Клуню паставілі трычатыры гады пасля хаты, з такога дзерава, што грэбля на Арлянцы была вымашчана для войска. І поле абраблялі не ўсё адразу, *шахаўніца* была. Найшлі стары дзеравяны плуг, спрагацца трэба было. Насенне атрымоўвалі рознымі спосабамі: адзін год малацілі ў ксяндза ў Суражы, то даў зерня.

Пра школу то не было і мовы. І пра работу таксама; з Беластока рабочы браў жонку і ішоў на вёску, бо працы ў горадзе не было. А на вёсцы ў кожнай хаце па шэсць-дзесяць чалавек сядзелі дома. А працы на полі — не вырабіць. Толькі пры саветах, як калектывізацыя была і плацілі натураю, пайшлі маладыя ў горад, бо ім грошы былі патрэбны.

Жыццё, якое я пражыў — хай яно здохне!

**Запісаў Аляксандр Вярбіцкі**

# Бельск як Масква

— Бельск-Падляшскі — найважнейшы горад Падляшша. Для нас ён мае такое значэнне, як Масква для расейцаў, — кажа Дарафей Фіёнік.

У днях 3—4 кастрычніка г.г. у Студзіводах праходзілі гістарычна-краязнаўчыя сустрэчы ліцэістаў. У занятках прынялі ўдзел члены і сімпатыкі польска-беларускага клуба 15/15, што дзейнічае пры ІІ Агульнаадукацыйным ліцэі ў Гайнаўцы.

— Мэта сустрэч — разбуджэнне зацікаўлення гісторыяй найбліжэйшага наваколля. Бельск — гэта духовая і гістарычная сталіца рэгіёна. І я хацеў бы, каб людзі з Гайнаўкі пра гэта ведалі, — кажа арганізатар Д. Фіёнік.

На працягу двух дзён удзельнікі знаёміліся з гісторыяй старога горада, наведалі яго самыя цікавыя месцы, помнікі архітэктуры і археалогіі.

— Кожная вандроўка па Бельску мае рамантычны характар, — пераконвае Д. Фіёнік. — І асабліва, калі ўваходзім у горад і яго гісторыю з самых старажытных завулкаў. Абавязкова трэба наведаць гарадскія могілкі. Там, як нідзе, ажываюць сляды мінуўшчыны, рады помнікаў, на якіх прыкметны ранг і значэнне горада. Падарожжа трэба завяршыць недзе ў наваколлі ратушы, ужо новай карціне Бельска.

Разам з Дарафеем Фіёнікам Бельск прадстаўлялі паэтка Надзея Артымовіч, гісторыкі Яўген Вапа і Славамір Іванюк, мастак Алег Кабзар.

Цікава, што дажджлівае і халоднае надвор'е не памяшала гульням ля вогнішча. Гайнаўскія ліцэісты заваражылі сваімі спевамі не толькі бельскую паэтку, але і надвор'е. У час іх спеваў пераставаў ісці дождж, сціхаў вецер, на небе загараліся зоркі. Па наваколлі раздаваліся галасістыя матывы пра няшчаснага „Колю трактарыста", „Тапаля ўсё ў пуху", „Аксамітны летні вечар". Дарэчы, рэпертуар гайнаўскіх ліцэістаў — метафізічны. І ў часы маіх ліцэйскіх гадоў спявалася пра тое ж. Трэба адзначыць, што зараз новую якасць складаюць сабраныя ў час гістарычна-этнаграфічнага летніка ў Войшках песні „Ой у полі вінко", „Ой ты вэрбонько кудравая", „Ой і кум до кумы заліцаецця". Спевы не сціхалі да чацвёртай раніцы. Пасля такой вечарыны добра было знаёміцца са старажытным Бельскам. Як запэўнілі арганізатары — Дарафей Фіёнік і Тамаш Саевіч — сустрэчы завершацца конкурсам аб гісторыі і сучаснасці Бельска. У ім будуць магчы прыняць удзел не толькі гайнаўскія ліцэісты, але і ўся зацікаўленая тэмай моладзь.

**Г. К.**

# Паэтычная восень

26 і 27 верасня Гарадскі дом культуры супольна з літаратурнай групай „Гайнаўка" сарганізавалі „Гайнаўскую паэтычную восень '97". На гэта мерапрыемства Уладзіслаў Завадскі падрыхтаваў выстаўку „Восень, восень". У час сустрэч адбылося завяршэнне і падсумаванне V Агульнапольскага паэтычнага конкурсу імя Веслава Казанэцкага для моладзі сярэдніх школ. З ліку ўдзельнікаў конкурсу журы вылучыла шэсць асоб, якія ад спонсараў атрымалі ўзнагароды. Вакол гэтых паэтаўпераможцаў адбываліся ўсе сустрэчы: спецыяльная праграма, літаратурныя заняткі, аўтарская сустрэча з Мечыславам Чайкоўскім і прэзентацыя літаратурнай групы „Гайнаўка". Больш публікі прыйшло на аўтарскую песню Марка Галонзкі. Як заявіў дырэктар Залеўскі (галоўны арганізатар), у Гайнаўцы конкурс і літаратурная група малавядомыя. Пахмурнае надвор'е і надпіс на сцэне папаўнялі восень у выкананні Уладзіслава Завадскага (выстаўка „Восень, восень"). Фатограф паведаміў, што цяпер у яго больш каляровых прац, дзякуючы якім можа больш дакладна выказаць свае аўтарскія думкі і намеры.

Нам застаецца чакаць беларускай бардаўскай восені ў Бельску-Падляшскім.

**Аляксей Мароз**

# Бар „У Алеся"

[1 ☞ *працяг*]

зрокам за акно, заглыбляецца думкамі ў свой малады, хаця нялёгкі лёс.

Ледзь паспееш прысесці за сталом, калі з'явіцца Алесь. Пра Алеся можна сказаць коратка: заўжды на варце, заўжды чуйны і заўжды гатоў на супрацоўніцтва. Выхаваны ў прыгранічнай вёсачцы, рана стаў гарцэрам, а там пагранічнікі напераменку з настаўнікамі папрацавалі над ягонай чуйнасцю, фармуючы пры нагодзе правільнае грамадзянскае стаўленне.

На акцыю супроць каларадскаму жуку Алесь не забраўся. Не з гультайства, вядома, а толькі таму, што не было яго сярод жывых. А калі ў стогнах і болях падарыла маці свету Алеся, плён буржуазнай дыверсіі распаўсюдзіўся і пазвычайнеў, як і звычайнай стала ранейшая ўдзельніца каралеўскіх банкетаў — Яе Высокасць Бульбіна. Каларадскім жуком людзі перасталі сабе марочыць галовы, а бацька сказаў, што з капіталізмам ніхто яшчэ не выйграў. Пасля гэтага бацька кудысьці прапаў і дзеду Астапу прыйшлося забіраць з гарадскога шпіталя дачку і ўнука. Пройдзе годі другі, пакуль бацька вернецца і ўпершыню ўбачыўшы сына, яшчэ раз скажа:

— Помні, сынок: з капіталізмам яшчэ ніхто не выйграў.

Як відаць, бацька нічога не навучыўся, затое Алесь вельмі многа. Ён рашыў, што калі ўжо дарасце, запішацца ў капіталісты. Тады яшчэ не ведаў, што раней прыйдзецца яму запісацца ў гарцэры, дзе як кожны добры гарцэр будзе абавязаны славіць свайго ўласнага шпіёна. А заданне не было лёгкае. Вёсачка раскінулася за гарамі — за лясамі, далёка ад прамысловых цэнтраў і шпіёны, не звяртаючы ўвагу на пабожныя жаданні мясцовых гарцэраў, зазіралі сюды вельмі-вельмі рэдка. Відаць, мала іх цікавіла: драўлянымі ці жалезнымі плугамі варочаюць зямлю аўтахтоны.

Усё-такі Алесю пашанцавала. Летам прыйшоў у вёску чалавек і адразу было вядома, што гэта шпіён. Барадаты, у доўгім пінжаку, таямнічы мяшок з правага пляча перавешаны на левы клуб. Так апісваў шпіёнаў капрал Бароўскі, а як сам запэўніваў — шмат іх, падлюгаў, вылавіў і пад суд адставіў. І вось стаіць перад табою экземпляр родам з расказаў капрала Бароўскага, ды яшчэ пытае кудою найбліжэй дайсці на граніцу. Кожны добры гарцэр ведае, што рабіць у такім незвычайным выпадку. Алесь таксама ведаў: шпіёна накіраваў у фальшывы бок, а сам шмыгануў да солтыса.

Пагранічнікі прыехалі на матацыкле маркі „ВФМ".

— І дзе ён, гэты твой шпіён? — зрыфмавалася сяржанту. Выпадкова хіба, бо паэзіяй ніколі ён, нават у школе, не займаўся.

Бацька гаварыў, што гэты сяржант у ніякую школу ніколі не хадзіў. І абяцаў Алесю, што калі далей будзе вучыцца так, як да гэтай пары, таксама трапіць у сяржанты. У бацькі пасля доўгай непрысутнасці дома паявіліся схільнасці абагульняць складаныя праблемы ды перавялічваць малаважныя факты.

Аднак пра ўсё гэта трэба цяпер забыць: шпіён набліжаўся якраз у канец вёскі і нават не думаў спыніцца.

— Вунь там пайшоў, — папусціўшы вуздэчку фантазіі, Алесь бачыў ужо школьную ўрачыстасць, натоўп равеснікаў і сябе, як перад гэтым натоўпам адбірае з рук нейкага камандзіра дыплом, а мо нават і ручны гадзіннік маркі „Заря".

— Ты думаеш пра гэтага абадранца ў канцы вёскі? — зарагаталі пагранічнікі. Іхнія жываты трэсліся пад зялёнымі мундзірамі, а Алесю здалося, што ад гэтых жыватоў трасецца ўся зямля, і свет рассыпаецца, і прыгнятае ўсе дыпломы і ручныя гадзіннікі маркі „Заря".

— Гэта прыдуркаваты Вова. Увесь павет яго ведае, — адазваўся сяржант. — Вова! Воў-ка, куды ідзеш?

— На гра-ні-цу! — адгукнуўся другі канец вёскі.

— Чысты прыдурак. Гэта ж зусім у другі бок. Давай пад'едзем, а то яшчэ заблудзіць, — сяржант садавіўся хуценька на „вуэфэмку". — А табе, хлопец, дзякуй.

Калі нехта гаворыць, што пекла выступіла з берагоў, ён безумоўна бачыў гэты катаклізм у Алесевай вёсцы, якраз на другі дзень пасля візіту Воўкі.

Чатыры межавыя слупы, каб было справядліва — два бела-чырвоныя і два чырвона-зялёныя — перанёс нехта далёка, трыццаць пяць метраў на ўсход. На адным з гэтых слупоў вецер няспешна пагойдваў таямнічую торбу. Выглядала гэта так, нібы вялікая рука апранутая ў агромную, зялёную рукавіцу запрашала: хадзіце, ха-дзі-це.

Ноччу Польшча на трыццаць пяць метраў уварвалася ў жывы арганізм Савецкага Саюза, а пасля абеду сакратар Герэк быў ужо ў Маскве. Алесь — абрабаваны з дыплома і ручнога гадзінніка — канчаткова рашыў не ісці ў сяржанты, а згодна з ранейшымі намерамі запісацца ў капіталісты.

І сёння гэты Алесь ставіць на маім століку два куфлі піва.

*(працяг будзе)*

**Міхась Андрасюк**

# БГКТ перад з'ездам

Канферэнцыяй аддзелаў з Беластоцкага раёна пачалася 5 кастрычніка г.г. справаздачна-выбарчая кампанія перад XIII з'ездам Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Прынялі ў ёй удзел дзеячы з Беластока ды Гарадоцкай, Міхалоўскай і Заблудаўскай гмінаў.

Старшыня Беластоцкага гарадскога аддзела і, адначасна, сакратар Галоўнага праўлення Валянціна Ласкевіч у справаздачы з дзейнасці не шкадавала цёплых слоў аніматарам культурнага жыцця і членам мастацкіх калектываў. Паводле яе, найважнейшыя задачы, якія стаяць перад з'ездам, гэта актывізацыя статутнай дзейнасці таварыства, арганізацыйнае яго ўмацаванне на Беласточчыне, вызначэнне новых напрамкаў дзейнасці і выбар новых уладаў.

Персанальныя справы ў такіх выпадках заўсёды найцікавейшыя. Аднак, калі хто спадзяецца на новыя твары ва ўладах Беларускага таварыства, праўдападобна расчаруецца. Не мяняюць жа пераможцаў. Цяперашнія ўлады дабіліся таго, чаго таварыства не мела на працягу свайго саракагоддзя. А менавіта, яго старшыня Янка Сычэўскі стаў паслом Сейма.

З'езд БГКТ пройдзе пад канец лістапада, але дакладны яго тэрмін яшчэ невядомы. „Спачатку трэба пазнаць расклад працы парламента і паводле яго вызначаць, каб нашаму старшыні і нашаму паслу, — сказала спадарыня Ласкевіч, — не супалі дзве важныя падзеі ў той сам час".

**М. В.**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Асаблівы клас

— Дзеці з IV „ц” будуць удзельнічаць у праграме Беларускага саюза „Бельск-Падляшскі — сэрца пагранічча”, — кажа іхняя выхавацелька і заадно настаўніца беларускай мовы Валянціна Бабулевіч.

Чаму якраз гэтаму класу прыпала такая цікавая задача? Чаму якраз IV „ц” з ліку некалькіх сотняў вучняў бельскай „тройкі”?

— Дзеткі з гэтага класа вельмі адкрытыя на ўдзельніцтва ў пазаўрочных занятках, — кажа настаўніца. — Таксама бацькі вельмі станоўча ўспрынялі прапанову школы. Мы будзем знаёміцца з нашым найбліжэйшым наваколлем, пазнаваць яго гісторыю і традыцыі, сустракацца з цікавымі людзьмі.

У найбліжэйшы час дзеткі з IV „ц” наведаюць скансэн Дарафея Фіёніка ў Студзіводах. Апрача краязнаўчай экскурсіі школьнікі паслухаюць пра жыццё іх продкаў. Арганізатары маюць намер наладзіць сваім малодшым сябрам вогнішча з печанымі каўбаскамі і спевамі. На днях прадбачваецца таксама сустрэча з бельскай паэткай Надзеяй Артымовіч.

Цікава расказалі мае новыя сяброўкі і сябры пра тэатральныя заняткі. Мова тут пра беларускі дзіцячы тэатр, які дзейнічае ў Бельскім доме культуры. Вядзе яго спадарыня Альжбета Тамчук. Зараз рыхтуецца чарговая пастаноўка „Батлейка”. (Пра пастаноўку „Жытняя талака” цікава напісала ў „Зорцы” № 35 Жанэта Роля.)

— Мы разам з сяброўкай будзем дапамагаць Смерці здымаць галаву Цару, — кажа Камілька Врублеўская.

Дзяўчатам вельмі падабаюцца тэатральныя заняткі. І асабліва тое, што Царом будзе жартаўнік сямікласнік Адрыян Крукоўскі. Таксама і Чараўніца, якую іграе наша карэспандэнтка Жанэта Роля, вельмі захапляе чацвёртакласнікаў.

— А наша пані Эля вельмі файная, — прызнаецца Наталька Шчужэўская. — Яна дазваляе нам іграць на раялі.

Наталька вельмі перажывае сваю ролю. Яна іграе ў п'есе Жаўнера. Разам з названымі дзяўчынкамі ў тэатры ўдзельнічаюць іх класныя сябры: Мальвіна Бароўская, Агнешка Андрасюк, Дарак Ваўчук, Рафал Каршак.

У IV „ц” многа таксама паклоннікаў паэзіі.

— Мне найбольш падабаюцца беларускія вершы, — кажа Бася Жэрунь.

Бася разам з Міленкай Парфянюк, Аляксандрай Багуцкай, Эвэлінкай Карчэўскай і Агнешкай Андрасюк удзельнічалі ў дэкламатарскіх конкурсах беларускай паэзіі і прозы.

З IV „ц” таксама выводзяцца новыя „Журавінкі”. Тут трэба паясніць чытачу, што вядомы дзіцячы гурт „Журавінкі” памаладзеў. Старыя „Журавінкі” ўжо сямікласніцы і зразумела, што ім ужо дзіцячыя песні не падыходзяць. На іх месца прыйшлі дзяўчынкі з чацвёртых класаў, між іншым вучаніцы IV „ц”. Калектывам і далей займаецца спадар Сяргей Лукашук. Трэба спадзявацца, што новыя „Журавінкі” будуць не горшыя за старыя. У час нашай сустрэчы дзеткі чароўна праспявалі беларускія песні. Але ж не толькі ўдзельніцтвам у мастацкіх занятках славіцца IV „ц”. У класе вучыцца слаўны футбаліст Давід Семянюк.

Цікава таксама, што амаль усе дзеці любяць гісторыю, матэматыку, геаграфію, беларускую мову. Усе вучні, 27 асоб, чытаюць „Зорку”. Наша газетка, як сказалі дзеткі, спадарожнічае ім ужо здаўна. Іх папярэдняй настаўніцай беларускай мовы была спадарыня Ірэна Кандрацюк. Ужо тады дзеці былі вернымі чытачамі „Зоркі”. Трэба спадзявацца, што нашае сяброўства і далей будзе развівацца і прыносіць цікавы плён.

**Зорка**

*Фота аўтара*

*(У наступным нумары „Зоркі” — рэпартаж аб сустрэчы з VI „ц” у бельскай „тройцы”)*



*Клас IV „ц” са сваёй настаўніцай Валянцінай Бабулевіч.*

## Вершы Віктара Шведа

### На ўроку заалогіі

Заняткі пачала зноў школа,
Прайшоў канікул час прыгожы.
Валодзю запытаў заолаг:
— Пра ластаўку сказаць што можаш?

Адказвае хлапчына шчыра:
— Разумненькая птушка гэта,
Яна сабе ляціць у вырай,
Калі навука пасля лета.

### У музеі

У музеі лаюць Міколку
І жадаюць платы адразу.
Незнарокам ён скінуў з полкі
І разбіў старынную вазу.

Хлопец кажа: — Грошай не маю,
Найбяднейшы я ў нашым класе.
Яшчэ добра што хоць старая,
Яна новаю мне здалася.

## Пішуць школьнікі

**Дарагая „Зорачка”!**

Сардэчна Цябе вітаюць вучаніцы сёмага класа Пачатковай школы ў Чыжах. Нядаўна было першае верасня. Нам не хацелася ісці ў школу, таму што там трэба многа вучыцца і рана ўставаць. Калі аднак мы зайшлі ў школу ды пабачылі сяброваак і сяброў, адразу павесялелі. У нашай школе многа перамен. Пабудавалі два класы. Адно з новых памяшканняў прыпала нам, вучням сёмага класа. Яно вельмі прыгожае. У нашым класе ёсць новыя парты і акварыум з гупі і мечаносцамі. Пасля двух тыдняў навукі ў школе мы капалі бульбу. Працавалі мы ў полі 6 гадзін, Уборка бульбы завяршылася дыскатэкай. Хаця мы стаміліся, аднак танцавалі з ахвотай да восьмай гадзіны вечара. Вельмі добра нам у школе.

**Вучаніцы сёмага класа**
**Аня Бачыньская**
**Аліна Сіроцкая**

**Ад рэдакцыі:** Прывітанне, сябры! Ваш ліст вельмі сімпатычны і цікавы. На жаль, не можам надрукаваць вашага малюнка, бо ў друку ён будзе неразборлівы. Атрымаецца проста шэрая пляма. У будучыні, памятайце, найлепш рысаваць выразна чорна-белыя малюнкі, без каляровага фону.

**Фёдар Ляшкевіч**

## Скорагаворкі

### Рак казаў граку

Неяк выпаўз з рэчкі рак,
Стрэў грака і кажа так:
— Хоць і носіш чорны фрак,
Ды, аднак, не рак ты, грак,
Як і ракі не гракі.
Вы гракі, што небаракі,
Вы не можаце, як ракі,
Поўзаць задам да ракі.

### Па шашы

Шусні,
Сонца,
Шашу прасушы.
Яшка з Пашкам пайшлі па шашы:
Яшка ў шапцы, а Пашка без шапкі,
Пашка з шашкай, а Яшка без шашкі.

# Як Мікола быў каровай

*(украінская народная казка)*

Жыў сабе адзін бядняк, якога звалі Міколам. Меў ён толькі старую хатку, а ў той хатцы поўна дзяцей.

Аднойчы пайшоў Мікола з жонкай у лес: ён — па дровы, жонка — па грыбы. Раптам бачыць — багацей, у якога Мікола ледзьве не дарма цэлы год служыў, вядзе з кірмашу карову.

Міколава жонка зашаптала:

— Калі б нам такую карову! Было б дзецям малако!

— Цыц, жонка, — адказаў Мікола. — Багацей мне вінен, дык і карова будзе нашай.

Пакінуў ён жонку ў кустах, а сам пайшоў на дарогу. Ціхенька падышоў да каровы, зняў з рагоў вяроўку, і накінуў сабе на шыю. Карова — у лес пасціся, а Мікола ідзе за багацеем. Узрадавалася жонка, бо зразумела мужаву хітрасць і павяла карову дамоў.

А багацей ішоў і не аглядваўся. Не вядома, як доўга ішоў бы ён так, ды сустрэў знаёмага купца.

— Гэй, сусед, — крыкнуў той яшчэ здалёк, — што ты даў за гэтага вала?

Багацей і цяпер не азірнуўся, толькі сярдзіта буркнуў:

— Калі ты да гэтага часу вала ад каровы не можаш адрозніць, то хоць памаўчы.

— Дык якая ж гэта карова? Гэта ж вол, — зарагатаў сустрэчны купец. — Калі не верыш, то сам паглядзі.

Багацей азірнуўся і за галаву схапіўся:

— Чорт пабяры?! Купіў добрую карову, а такое здарылася.

Купец пасмяяўся ды пайшоў сабе, а багацей стаў пасярод дарогі і не ведае, што рабіць.

— Адкуль ты тут узяўся? — запытаў ён Міколу.

— Я і сам не ведаю, — адказаў той. — Не памятаю, каб ты купіў мяне каровай.

Багацей не мог прыйсці ў сябе.

— Як ты стаў каровай?

— Не ведаю, — але здагадваюся, што пракляла мяне адна ўдава. Некалі я быў багатым і скупым. Служыла ўдава ў мяне ледзь не задарма год. Я скупіўся заплаціць ёй заробленае, і за гэта яна мяне і суровачыла: „Мікола, каб ты стаў каровай і быў ёю да той пары, пакуль не выплаціш мне заробленае малаком".

Багацей выслухаў і вылаяўся:

— Паслаў цябе чорт на маю галаву і грошы забраў. Ідзі сабе і не выстаўляй мяне на пасмешышча.

— Што ты кажаш? — разззлаваўся на яго Мікола. — Гэта табе так лёгка не абыдзецца. Дзе гэта чутна, каб невінаватаму чалавеку вяроўку на шыю накідвалі? Мусіш на судзе адказваць.

Бачыць багацей — бяда будзе. Заплаціў Міколу грошы, каб той згадзіўся маўчаць.

Прыйшоў Мікола дадому з поўнымі кішэнямі, а жонка ўжо паспела карову падаіць і малако дзецям налівае.

Праз некаторы час карова ацялілася, і выгадаваў Мікола другую. Старую вырашылі прадаць.

Ідуць яны з жонкай на рынак і карову вядуць. Толькі прыйшлі, а іх абступілі з усіх бакоў купцы, бо лепшай каровы, як у іх, у той дзень не траплялася. Жонка таргуецца, а Мікола па баках глядзіць. Раптам бачыць — ідзе аглядаць карову яе былы гаспадар. Сказаў пра гэта Мікола жонцы і ціхенька ўбок адышоўся. А багацей агледзеў карову і зашаптаў ёй на вуха:

— Што, Мікола, зноў цябе прадаюць? Так табе і трэба. Ды я не такі дурны, каб цябе купіць, — і пайшоў прэч.

А Мікола з жонкай прадалі карову і вярнуліся дадому, радыя, што пасмяяліся над багацеем.

*Пераклаў з украінскай мовы*
*Валерый БАБЕЙ*

# Крыжаванкі № 42

***Польска-беларуская крыжаванка***

Запоўніце клеткі беларускімі словамі:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Klasa | Kłak | Łyko | | Koło | Klitka |
| Haust | | | | | Kat |
| | | | | | |
| Rekin | | | | | |
| Socha | | | | | |

***Крыжаванка Касі ЛЕАНЮК***

зямны на школьным глобусе

беларускі падручнік для малышоў

пушысты ў ваверкі

у ім зярняты

жулік, лодар

на спіне чарапахі

вымаўленне аднаго са складаў слова з большай сілай

знак прыпынку

Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку 38:** дача, калыханка, нумар, ас, шаг, дамка, мана, луг, дым, захад, чара, пан, юка, краса.

Узнагароду — **запісную кніжку** — выйграла **Кася Леанюк** з Гайнаўкі.

# Міфы старой Беларусі

**6. Вазіла**

Вазіла — апякун коней. На Беларусі вядомы і пад такімі назвамі як Канькач, Хлеўнік, Табуннік, Вісуснік. Жыве ён у конскіх хлявах. Заўсёды прысутнічае сярод конскіх табуноў на начных выпасах. Вазіла мае чалавечае аблічча, конскія вушы і капыты. Звычайна ходзіць у чалавечым адзенні. Кожны гаспадар мае свайго Вазілу. Гэты бажок мае задачу апекавацца і клапаціцца пра размнажэнне коней. Ён таксама сцеражэ іх ад хвароб. Асаблівую пашану Вазіле аддавалі пастухі. На месцы начлегу конскага табуна забівалі вялізны шост і надзявалі на яго конскі чэрап. Такі сімвалічны Вазіла меў ратаваць табун ад усіх магічных небяспек.

Беларусы паважалі Вазілу і за тое, што ён ноччу падмешваў чароўнай травы ў пашу, ад якой коні хутка раслі і дужэлі.

Зорка

# Беларуская Народная Рэспубліка

21 лютага 1918 года Рада Усебеларускага кангрэса стварыла Народны сакратарыят, які стаў выконваць функцыі беларускага ўрада. На пачатку стагоддзя на беларускай зямлі, апрача беларусаў, пражывалі яшчэ яўрэі, палякі, рускія, літоўцы і іншыя нацыянальнасці. Беларуская палітыкі, якія да першай сусветнай вайны найбольш адчувалі ўсе прыкрасці нацыянальнага прыгнёту, не хацелі, каб у незалежнай беларускай дзяржаве іншыя нацыянальнасці адчувалі сябе горшымі грамадзянамі ці ў нейкі іншы спосаб былі пакрыўджаны. Таму ў склад кіраўнічых органаў узнікаючай беларускай дзяржавы былі прызначаны паляк, рускі, літовец і двух яўрэяў.

25 сакавіка 1918 года Рада ад імя прадстаўнікоў беларускага народа аб'явіла ўзнікненне Беларускай Народнай Рэспублікі. Сёння гэты дзень з'яўляецца святам усіх тых людзей, якія адчуваюць сябе беларусамі.

У тым самым часе волю жыць у сваёй свабоднай дзяржаве праявілі таксама літоўцы, латышы, эстонцы, украінцы, а ў лістападзе — палякі. Беларусь была прызнана ўсімі суседнімі краінамі, апрача бальшавіцкай Расіі і Польшчы. Вольны беларускі народ у еўрапейскай сям'і віталі з задавальненнем урады Францыі, Чэхаславакіі, Фінляндыі, Швецыі, Грузіі, Арменіі. Украінцы вырашылі нават падтрымаць беларускую дзяржаўнасць грашовай дапамогай, каб разам абараняць сваю незалежнасць.

У склад тэрыторыі Беларускай Народнай Рэспублікі ўвайшлі Міншчына, Віцебшчына, Смаленшчына, Гарадзеншчына, Беласточчына, Віленшчына, Берасцейшчына і Чарнігаўшчына. Хутка ўзнікала адміністрацыя, падпарадкаваная Народнаму сакратарыяту, якім кіраваў Антон Луцкевіч, першы прэм'ер-міністр незалежнай Беларусі. Беларусы не паспелі толькі стварыць свае арміі, якая магла б абараніць Бацькаўшчыну ад агрэсіі суседніх імперыялізмаў.

# Конкурс, конкурс, конкурс!

**Літаратурныя гульні**

Адкажыце на пытанні. Адказы дашліце на працягу трох тыдняў. Аўтары правільных адказаў (прынамсі на тры пытанні) возьмуць удзел у жарабёўцы, у якой можна выйграць беларускія (вартасныя!) кнігі.

**Увага!** У конкурсе могуць прымаць удзел ліцэісты.

1. У якім старажытным помніку беларускай літаратуры ўспамінаецца асоба Усяслава Чарадзея?
2. Калі і дзе Францыск Скарына пераклаў Біблію на беларускую мову?
3. Хто з беларускіх класікаў змагаўся ў радах паўстанцаў пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага?
4. Як называецца першы і адзіны зборнік вершаў Максіма Багдановіча, які выйшаў яшчэ пры жыцці паэта?
5. Назавіце сапраўднае прозвішча паэта Алеся Барскага.

Зорка



Талон „Зоркі" № 42
19.10.1997

# Ці Белавежа зменіць герб?

Самаўрадавыя ўлады гміны Белавежа хіба не прадбачылі, арганізоўваючы конкурс на герб мясцовасці, што пасля сямі гадоў ад яго прыняцця ўспыхне нешта накшталт скандалу, звязанага менавіта з гэтым гербам. Усю мітусню ўзняў Анджэй Казяра, журналіст беластоцкай штодзёнкі „Kurier Podlaski”. У артыкуле п.з. „Żubr-bohomaz”, змешчаным у газеце ад 23 мая г.г., абвінаваціў белавежскі герб у даволі вульгарны спосаб ва ўсім, што толькі можна было, у дадатак палічыўшы яго адным з найгоршых гербаў у Польшчы. Усё ж здзіўляе адно, чаму рэдактар Казяра гэтак позна ўзяўся за справу. Не ведаў раней, як гэты герб выглядае? Цяжка паверыць, тым больш што ягоная газета апублікавала белавежскі герб год раней пры артыкуле п.з. „Чатыры стагоддзі Белавежы” (н-р 125 ад 28—30 чэрвеня 1996 г.). Рэдактар не мог не прыкмеціць яго. У Белавежы некаторыя перакананы, што ўсю справу падкінуў А. Казяры адзін з мясцовых жыхароў, які сам мае амбіцыю стаць аўтарам новага (вядома!) герба. Але, магчыма, гэта толькі выдумка.

Прыняты самаўрадам белавежскі герб, калі супаставіць яго геральдычным правілам, сапраўды мае хібы. Фармальныя, не эстэтычныя! У ім адсутнічае поле, не вядома таксама, што палічыць галоўным дэвізам: зубра, вежу ці дрэвы? У гербах не допускаецца прымяняць адценні і адвольныя колеры. Таксама нельга ўводзіць перспектыву і надпісы з назвай мясцовасці.

— Пра ўсё гэта я зусім не ведаў, — з горыччу ў голасе гаворыць Васіль Скепка, аўтар пакрытыкаванага герба. — У рэгламенце конкурсу ані адным словам не сказана, якія правілы ў гэтым выпадку абавязваюць.

І цяжка тут здзіўляцца раздражненасці сп. Васіля. Толькі зусім непатрэбна ён усю крытыку прымае ў свой адрас. Яна поўнасцю належыцца арганізатарам конкурсу, якія праявілі нядбаласць у апрацоўцы рэгламенту. Зрэшты, калі добра памятаю, успомнены рэгламент адзначаўся і тым хібам, што прапанаваў удзельнікам конкурсу ўвесці столькіх дэталяў, што я сам задумоўваўся, як аўтары праектаў справяцца з „натоўпам”. Усё ж пераможца Васіль Скепка справіўся па-майстэрску, улічыўшы амаль усе патрабаванні конкурснай камісіі. А вось, як растлумачваў сваю працу „Ніве” (глядзі н-р 36 ад 9 верасня 1990 г.):

„Вядома, што герб Белавежы без зубра абысціся не можа — я і змясціў яго на першым плане. А ці можна аддзяліць зубра ад лесу? Таксама не. Таму на другім плане памясціў сілуэты дрэваў розных відаў. Трэці план запоўніў „белай вежай”, ад якой шмат хто выводзіць назву мясцовасці (...). Усё гэта ўпісаў у „падкову” з дубовага лісця з двума жалудамі, памятаючы аб тым, што дуб — сімвал мацаты, каралеўскі від. Уверсе змяшчаецца надпіс „Белавежа”. Неабыякавую ролю ў гербе адыгрываюць колеры. Розныя адценні зялёнага сведчаць аб разнароднасці раслiннага свету. Блакіт гаворыць аб тым, што паветра над пушчай і мясцовасцю яшчэ даволі чыстае. Залаты колер лісця сімвалізуе каралеўскасць Белавежы. У гербе можна было б змясціць яшчэ некалькі іншых элементаў, але я пабаяўся, што ён будзе перагружаны дэталямі”.

... Быццам аўтар прадбачваў усю мітусню з гербам у будучыні! Усё ж, ягоная праца сустрэлася з прыхільнасцю не толькі конкурснай камісіі, але і ўсіх жыхароў Белавежы. Праз сем гадоў ніхто аніводнага слова крытыкі не сказаў у адрас герба. Ён ужо зафіксаваў у некаторых публікацыях, на пісьмовай паперы ці на некаторых турысцкіх сувенірах. І што цяпер з усім гэтым зрабіць?

Самаўрад гміны Белавежа задумваўся над праблемай, але пакуль што нічога яшчэ не вырашыў. Найхутчэй, пасля правядзення кансультацыі са спецыялі-




стамі ў галіне геральдыкі, даручыць аўтару зацверджанага ў 1990 г. праекта пераапрацаваць яго. Васіль Скепка гатовы на гэта.

Трэба адзначыць, што справа герба Белавежы не з'яўляецца адасобленай. Збігнеў Раманюк у „Tygodniku Podlaskim” (н-р 13 ад 18 ліпеня г.г.) інфармуе, што звыш палова гербаў, прынятых пасля 1990 г. гарадамі і гмінамі, абцяжарана рознымі памылкамі. На жаль, заканадаўца, даючы радным такія правы, не прадбачыў, якія непаразуменні на гэтай падставе могуць узнікнуць. А найбольш цікавае, што ніхто, апрача разважнасці, не можа прымусіць самаўрадаўцаў зменіць прынятыя нязгодна з правіламі гербы!

Ці зубра з белавежскага герба можна палічыць „богамазэм”, як хоча рэдактар Казяра, няхай ацэняць самі чытачы. Мне асабіста думаецца, што спадар рэдактар сам павінен часцей спаглядаць на сябе ў люстэрка.

**Пётр Байко**

# Громаадводы над вёскай

*(апавяданне з майго дзяцінства)*

Калі ў 60-ыя гады нехта пад'язджаў да Альхоўкі, то з кожнага боку бачыў ён лес высокіх драўляных тычак. Мясцовым усё было зразумела, але незнаёмаму чалавеку трэба было тлумачыць такі дзіўны, на першы погляд, вобраз...

Лета 1956 года было гарачае. Яно не здавалася і ў пачатку верасня. Спякотным выдаўся першы дзень заняткаў у школе. Паветра было гарачае і парнае, клас не меў чым дыхаць. Пасля поўдня з боку Нараўкі паказалася на небе чорна-сіняя аграмадная хмара. Яна паволі з грымотамі і маланкамі падыходзіла да Альхоўкі. Узняўся вецер, пайшоў ліўны дождж. Раз-пораз бліскалі маланкі, вокны дрыжэлі ад удараў грому. Раптам загрымела так моцна, як бы хто выстраліў з гарматы, а маланка сляпуча асвятліла школу. Вучні 5-га класа бачылі ў акне, як на Арсэневу клуню звалілася з неба сцяна агню і ў імгненні вока будынак гарэў як свечка.

Настаўніцы задалі вучням пісьмовыя практыкаванні, а самі пабеглі памагаць гасіць агонь. Калі дождж прыціх, вучні старэйшых класаў не вытрымалі і таксама пабеглі на пажар.

Дарослыя як маглі насілі ваду, залівалі агонь ручною помпай, пакуль не прыехалі пажарнікі з Нараўкі, а потым з Гайнаўкі.

Арсэнева клуня стаяла далей ад суседняй і згарэла датла. Доўга яшчэ курэла спаленае сена. Да вечара людзі размаўлялі аб няшчасці, гаспадыні чакалі, калі пастухі прыгоняць з лесу кароў. Тады альхоўцы кароў пасвілі чаргою ў дзяржаўным лесе.

Але пяты пагон з лесу не прыйшоў, не вярнуўся дахаты і яго пастух Ваня Бароўскі. Адчувалася штосьці нядобрае. На другі дзень пайшлі сяляне ў лес шукаць жывёлу і чалавека. Хадзілі доўга і каля поўдня знайшлі нежывога Ваню за рачулкаю Брашчою ў 66 квартале Белавежскай пушчы. Ляжаў ён пад высокім, апаленым маланкай, дубам. Вакол дуба ляжалі сытыя каровы. Яны інстынктыўна адчувалі чалавечую смерць і не адышлі ад свайго апекуна.

На наступны дзень вёска хавала пакойнага, які аставіў жонку і падрастаючую дачку. Сярод людзей пасяліўся страх і яны цяпер з жахам глядзелі на кожную цямнейшую хмару, не ведаючы, што трагедыя вёскі яшчэ не закончылася, а неба далей асталося для яе неласкавым.

Гора завяршылася ў суботу гэтага ж тыдня. Пад вечар на паўночным захадзе зноў паказалася цёмная хмара. Я стаяў на вуліцы і думаў, куды яна кіруецца. Дзядзька Яська, які вёў з выгана каня, пацешыў мяне і сказаў, што хмара пойдзе бокам і дажджу не будзе. Але хмара расла ў вачах, запоўніла хутка паўнеба і грозна накіравалася на Альхоўку. Пайшоў густы дождж і ўсе пахаваліся ў хаты. Пачалася навальніца.

Нечакана моцна загрымела і пасярэдзіне вёскі ўспыхнуў агонь. На гэты раз маланка запаліла Ясечкаву клуню. Быў вецер, агонь хутка перакінуўся на суседнія будынкі. У полымі апынуліся інвентарскія будынкі трох суседзяў. На дварах цямнела, а пажар бушаваў, высока ляцелі чырвоныя іскры. Страшна было глядзець як агонь пажыраў чалавечую працу, звезенае збожжа, страшна слухаць крыкі мужчын, галашэнне жанчын, трывожныя сірэны пажарных машын.

Мая суседка, старая Ганначка, хадзіла вакол сваіх будынкаў з іконаю ў руках, чытала „Отча наш” і прасіла Госпада змілавання.

Ранкам, у нядзелю яшчэ дыміліся пажарышчы, тырчэлі чорныя недапаленыя бярвенні, усюды адчуваўся едкі пах дыму. Людзі бедавалі над лёсам спаленых гаспадароў, а найбольш шкадавалі маладога Жору, які жыў толькі з маці і малодшай сястрой.

Размоў было вельмі многа. Жанчыны гаварылі, што мужчыны рэдка ходзяць у царкву і за гэта Бог пакараў вёску. Мужчыны апраўдваліся і скідалі віну на жанчын. Многіх мучыла пытанне, чаму маланка запаліла клуню, на якой шмат гадоў было буслінае гняздо, паколькі ніхто не чуў, каб гром біў у нявінных птушак. Другія адказвалі, што буслы ўжо адляцелі, а вясной пабудуюць новае прыстанішча...

На змену лета прыйшла восень. На дварэ пахаладала, але валуны хмар яшчэ доўга засланялі неба і перад захадам сонца свяціліся злосным вогненным чырваннем. Дзеці спалохана глядзелі на гэтыя хмары, баяліся сядзець адны ў хаце, іх памяць была апаленая пажарам і ўзрушана смерцю аднавяскоўца.

Дарослыя сталі збіраць грошы і гаварыць аб громаадводах. Малады юнак Сярожа вучыўся тады ў Варшаве і купіў для ўсёй вёскі громаадводнае абсталяванне. Гэта было жалеза, закончанае трохкутнай меднай вілкай. На кожным панадворку гаспадары ставілі адзін або два громаадводы, прывозілі з лесу высокія, дваццаціметровыя тычыны. Громаадводы прастаялі лет дзесяць і пападалі. Ніхто іх не падымаў. З таго часу Альхоўка больш не гарэла ад грому.

Людзі кажуць, што цяпер ратуе вёску ад грому электырчная лінія. Яна ўтварае моцнае электрамагнітнае поле і такім чынам прыцягвае да сябе вогненныя маланкі.

**Мікалай Варанецкі**

# Паслявыбарчыя разважанні

Перад выбарамі звярнуўся да мяне за падтрымкай кандыдат у паслы Яўген Вапа. Дапамагаў я яму збіраць подпісы сярод праваслаўнага насельніцтва, стаў членам ягонага выбарчага камітэта. Потым да мяне звярнуўся кандыдат у сенатары Ян Тапалянскі. Таксама збіраў я яму подпісы. На канец дастаў я пісьмо ад кандыдата ў паслы ад Саюза левых дэмакратаў, старшыні БГКТ Янкі Сычэўскага. І ўсім трэба было дапамагчы.

Спатыкаўся я таксама з кандыдатамі ў паслы ад спіска праваслаўных. Некаторыя ведалі мяне, а для некаторых быў я простым праваслаўным селянінам. Некаторых кандыдатаў пытаў я ці чытаюць „Ніву”. Тых, што не чытаюць, папракаў я і заахвочваў пачаць чытаць нашы газеты.

Усё выйшла не так, як я спадзяваўся. Не будзе каму нас бараніць ні ў Сейме, ні ў Сенаце. Цяпер можна задумацца, якія мы людзі. Аказваецца, што добразычлівыя мы, ціхія і сумленныя, усім даваем, толькі пра сябе мала дбаем. Разбіліся мы на маленькія групоўкі і хочам свет заваяваць. Гэтае нам не ўдасца.

Мая думка такая: трэба нам зрабіць круглы стол, спаткацца нашым лідэрам: Сычэўскаму, Вапе і Круку за адным сталом і прыняць адну праграму дзейнасці ды аб'яднацца ў адзіную моцную арганізацыю, якая зможа адолець нашы цяжкасці. Нашы лідэры павінны запрасіць Яўгена Чыквіна — галоўнага рэдактара „Przeglądu Prawosławnego”, Юрку Хмялеўскага — галоўнага рэдактара „Часопіса” і Яўгена Мірановіча — галоўнага рэдактара „Нівы”.

Вы, спадары, маеце вялікі ўплыў на праваслаўнае насельніцтва нашай краіны і можаце ўсіх прымірыць і аб'яднаць у адну моцную арганізацыю і перамагчы на будучых выбарах так, як зрабіла гэта нямецкая меншасць, уводзячы сваіх паслоў у Сейм.

Круглы стол трэба зрабіць на незалежным для перагавораў грунце, прыкладна, у адной адлеглaсці ад Беластока, Бельска і Гайнаўкі, у хаце ў забітай дошкамі ад свету вёсцы.

Падумайце, лідэры, і адгукніцеся на мой заклік. Я больш за 30 гадоў звязаны з „Нівай”, яе не здраджу да канца свайго жыцця, а для вас адпушчу сваю хату на круглы стол.

Мая думка такая, што ўсё гэта павінна адбыцца да канца лістапада г.г. у суботу або ў нядзелю, калі ў вас будзе больш свабоднага часу. Перакажыце свае думкі ў рэдакцыю „Нівы”, якая павядоміць мяне аб вашых рашэннях.

За такую сустрэчу буду ўсім вам вельмі ўдзячны.

**Мікалай Лук'янюк**

**Якія мы людзі**

# Бэльфэрка

Лену ў сям'і называлі „бэльфэркай". Дзесяць гадоў яна працавала ўжо ў школе, а штодзень сядзела ў хаце дапазна, рыхтуючыся да кожнага ўрока, быццам да нейкага экзамена. „Бэльфэрка" — і ўсё тут!

Хто не зайшоў да іх у хату, дзівіўся: увесь час корпаецца ў кніжках, сшытках. Навошта ёй гэта?! Ды і муж Лены быў бы за тое, каб яна больш часу прысвяціла хаце і дзецям. Іншыя вунь таксама працуюць, а столькі не сядзяць! Паціху ганарыўся аднак, што ў яго такая жонка.

Толькі Лена ведала, што дзеецца ў глыбіні яе душы, бо там гэтая душа была раздвоеная. Адно самой сабе магла яна прызнацца, што яна, настаўніца і выхавацелька маладога пакалення, школу любіла і не любіла!

Да сваёй прафесіі Лена падыходзіла надзвычай сур'ёзна, шчыра хацела навучыць гэтых дзетак усяму таму, што сама ўмела, і таму вышукоўвала ў розных кніжках і навуковых дапаможніках розныя цікавінкі, каб веды яе былі яшчэ большыя.

Але дзеці... Лена ненавідзела гэты вечны шум, бегатню, бессэнсоўныя крыкі, штурханне на перапынках. А здаралася і так, што некаторыя вучні перадражнівалі настаўнікаў, калі ім даводзілася прайсціся па калідоры. Праўду кажучы, Лена на перапынках старалася хуценька шмыгнуць у настаўніцкі пакой, каб нічога не чуць і не бачыць.

Лена баялася, што ўласных дзяцей можа выхаваць калекамі: калі вярталася са школы, яны здаваліся ёй анёлкамі, і яна не магла нават павысіць голас на іх.

Ленчыны сяброўкі адна за другой адыходзілі са школы. А што там, здароўе чужым дзецям аддаваць?!. Кожная з іх шукала лягчэйшай працы — прынамсі каб было менш гадзін, а грошай больш.

Вось зусім нядаўна дзве сяброўкі перайшлі са школы на працу ў бальніцу, вучаць хворых дзяцей. А як жа, заходзілі ў школу, хваліліся: праца лёгкая, а вольнага часу — хоць адбаўляй!

Лена паціху зайздросціла ім. Вось жа ўдалося людзям. Каб жа і ёй гэтак папрацаваць у зацішшы шпітальных палат. Пэўна, тыя дзеткі гжэчныя. Хворыя ж, вядома.

Сяброўкі запэўнілі Лену, што ёсць надзея, бо дзіцячы шпіталь разбудоўваецца. Знойдзецца праца і для яе. А пакуль што абяцалі Лене, што пагавораць з дырэктаркай шпітальнай школкі.

Лена ўся аж дрыжэла, калі з букетам руж ішла на сустрэчу з дырэктаркай. Што будзе, ці спадабаецца яна ёй?..

Дырэктарка сказала Лене: вы будзеце першая ў чарзе, як толькі паявіцца нейкая магчымасць. Дзіва! Ленка ж была настаўніцай ад роду. Яе лагодны твар, вялікія, уважлівыя вочы, спакойны голас не маглі не спадабацца дырэктарцы. Такая дзіцяці не пакрыўдзіць!

Лена пачала хадзіць каля гэтай справы. Трывала гэта доўга, амаль год. Нарэшце шчасце ўсміхнулася і ёй. Дырэктарка сказала: ёсць месца! Яшчэ патрэбныя былі нейкія фармальнасці, давялося хадзіць у Куратарыю і нават званіць у Варшаву. Пасля пачалося медыцынскае абследаванне Лены. Было гэтага столькі, што дасціпны Ленчын муж сказаў: ты ўжо, бадай, паляціш у космас!

Першага верасня Лена прыйшла ў сваю новую „школу". Не патрапіла затаіць свайго хвалявання. Вочы яе блішчэлі — мо ад радасці, а мо ад таго, што Лена не спала амаль цэлую папярэднюю ноч. Вечарам натачыла розных алоўкаў, што валяліся ў хаце, узяла паперу для малявання, нейкія кніжачкі. Мела пакуль што працаваць з хворымі дзецьмі ў святліцы, дык хацела адразу даць ім занятак, ды і не прывыкла Лена браць грошы дарма.

Першы дзень быў, вядома, незвычайны, бо першы. У святліцу прыйшло ўсяго трое дзетак, якія не хацелі нічым займацца, хацелі адно глядзець тэлевізар. Не сыходзілі з „Польсата", дзе фільмы ішлі адзін за другім. Лена падумала, што не будзе іх ад першага дня мучыць.

Аднак жа на другі дзень паўтарылася тое ж. У святліцу прыйшло двое дзетак, і Лена пайшла па палатах шукаць ахвотных пазаймацца. „Толькі вы іх не перамучвайце там!" — папярэдзіла медсястра, і Лене стала сорамна, што яна цягне хворых дзяцей на заняткі.

Лена думала, што сёння ўжо дзеці памалююць, а яна ім (каб не перамучваліся) пачытае кніжку. Не! — дзеці ізноў уключылі „Польсат" і ўтаропіліся ў тэлевізар.

Усяго адно пяцігадовае дзіцятка хацела маляваць. Яно яшчэ, відаць, не разбіралася ў „польсатаўскіх" фільмах. Лена ўспомніла, як адна працаўніца Куратарыі сказала: „Навошта ім там, у бальніцы, настаўніцкія этаты, гэтым дзецям нічога ўжо не трэба!" Гледзячы цяпер на гэтых хворых ракам дзетак, Лене хацелася ўліць у іх маленькія душачкі хоць крышку надзеі і радасці ад існавання. Інакш, дык мо і лячыць гэтых дзетак няварта...

Калі на трэці дзень у цесны пакойчык, які называўся святліцай, лекарка ўвяла нейкую малую пацыентку з мамай і бабуляй ды загадала ім там сядзець і чакаць, быццам у пачакальні, Лена не вытрымала. Пайшла да дырэктаркі, перапрасіла яе і сказала, што з працы адыходзіць. У школу, абяцалі ёй, можа вярнуцца заўсёды.

Сяброўкі сцвердзілі: дурная! Сядзела б, свэтры вязала, газеты чытала ці з дзецьмі глядзела б тэлевізар. А першага ўзяла б грошы і пайшла, спакойная, да мужа і дзяцей. І ўсе былі б задаволеныя.

Але Ленка не была б задаволеная. Не магла і не хацела яна быць непатрэбнай, лішняй і таму з поўнай свядомасцю вярнулася ў школьны вулей.

**Ада Чачуга**

# Ад Бога

***(Быль)***

Аўдавеў Андрэй зусім рана, у свае шэсцьдзесят. Ягоная Надзя добрая кабета была, працавітая. Узяў яе быў з небагатай сям'і, з невялікім пасагам і невялікай красою, да таго ж старэйшую ад сябе на пару гадоў. Людзі дзівіліся, але коратка; потым толькі зайздросцілі. Надзя была гаспадыняй на ўсю грамаду, нарадзіла Андрэю дзяцей пяцёра адно за адным, хлопцаў павывучала, дачок добра замуж пааддавала. Шосты, наймалодшы, у позні век народжаны, Ясь, не вельмі ім удаўся, цяжка яму давалася навука, і астаўся на гаспадарцы. Дзякаваць Богу і за такое, а можа перш за ўсё якраз за тое, што астаўся памочнік дома... Але памёр быў Ясь. Шкада, непітушчы, спагадлівы, рабацяшчы быў хлопец. Ішоў з вясковага клуба цераз лес і штосьці з сэрцам яму зрабілася. Знайшоў яго раніцай сусед, што вёз у злеўню конаўкі з малаком. Яся на тры тыдні перажыла маці. Так вось Андрэй раптам застаўся адзін, якраз у капанне.

Прыехалі былі дапамагчы сыны з Беластока, дочкі з дзецьмі, хутка справіліся з гаспадаркай. Найлепш, казалі, прадаць гаспадарчыя будынкі, зямлю здаць *пад панства* за рэнту і ехаць ці да Геніка, ці да Ёзіка ў Беласток або і да дачок у Гайнаўку. Месца ўсюды знойдзецца, да кожнае ж хаты бацька ўлажыў свой грош. Едзь, Андруша, казаў сусед Коля, калі ёсць дзе жыць. Каб такія дзеці, як твае, нам усім трапіліся! Чаго табе тут аднаму чыпець, чакаць, пакуль хто наведае?

Паехаў Андрэй пабыць у Беластоку, але вясною вярнуўся. Дыхаць там цяжка, уздыхаў, а тут у нас пад пушчай ано жыві!

*Здаў* зямлю Андрэй, хоць у тую вясну ўсё яшчэ засеяў. Восенню знайшлася гаспадыня — Маруся з суседняе гміны, пяцідзесяцігадовая ўдава, рэнтыстка. Паглядзелі суседзі, адобрылі: мілавідная, чыстая, людская, набожная. Здаецца, як свая, вядомая з даўніх гадоў. І карову прывяла сваю. Ажыў Андрэй — і хата блішчэла, і сам аж пасвятлеў. На сціплае вяселле прыехалі дзеці, добра аценілі мачыху: „Добрэ, тато, што мае хто вамі заняцца. І цётцы Марусі весялей будзе. А калі што, то памятайце, яшчэ і мы ў вас ёсць", — сказалі і завуркаталі іхнія машыны на ўтравелым абшырным падворку.

Пражылі разам Андрэй і Маруся трынаццаць гадоў. Здаецца, усё у іх было добра. Ды раптам ваколіцу страсянула вестка: пакінула Маруся Андрэя! Прыехала грузавая машына, забрала крыху пажыткаў („я ж тут за той час сваё нажыла!"), прыхапіла Маруся і ашчадную кніжку ды кудысьці паехала.

Шукаў яе і Андрэй, шукалі і ягоныя дзеці (адзін сын жа ж у паліцыі працуе), ды як камень у ваду канула. А праз тыдзень Андрэй апынуўся ў бальніцы. Нагу яму адняло ад таго перажывання, і ў сэрцы калола. Мусіць, уміраць будзе наш Андруша, меркавалі суседзі. Каб хоць жонка прыехала ў бальніцу. Чаго ж гэта на старасць глупствы рабіць?!

Маруся прыехала, але дахаты. Схапілі яе суседзі: „Ты што нарабіла! То ж Андрэй ужо пры канчыне!" — „А ці то з мае прычыны? Нервы мне ад'еў сваёю гнілою хваробай! Разводзіцца думала. Ну, калі так, то ўжо пачакаю, Андрэю ж няшмат асталося"...

Пахавала Маруся Андрэя, прадала пляц з хатаю і садам пану з Беластока, што тут дачу сабе рабіць мае. Сплаціла Андрэевым дзецям іхнюю частку спадчыны і паехала. Кажуць, спачатку ў Бельгіі была, награбла грошай, а нядаўна замуж выйшла за кавалера, і то маладзейшага за яе на пятнаццаць гадоў, бяздзетнага, гаспадара на дваццаці гектарах.

Хваляць яе ў тамашняй ваколіцы за гаспадарлівасць і прылюднасць, а ейны Сяргей кажа, што, няйначай, ад Бога яму дасталася такая жонка.

**Міра Лукша**

# Нашы карані

**СХ. Пасланец**

Ніколі Гасподзь Бог не пакідаў Свае Царквы. Нават у самыя цяжкія, здавалася б бязвыхадныя часы, па Яго натхненню з'яўляліся ў Праваслаўнай Царкве выдатныя духовыя пастыры і царкоўныя дзеячы адраджалі яе з упадку, узмацнялі знешне і ўнутры, падымалі на вяршыню славы. Такім светачам Праваслаўя ў першай палове XVII стагоддзя на ўкраінскіх і беларускіх землях быў Пётр Магіла. Нарадзіўся ён у сям'і малдаўскага князя-гаспадара ў 1596 г. Рыхтаваўся да дзяржаўнай і ваеннай дзейнасці, атрымаў грунтоўную адукацыю ў Заходняй Еўропе. Але Гасподзь паклікаў яго да духоўнай дзейнасці.

На каранацыйным сейме кароль Уладзіслаў IV зацвердзіў Пятра Магілу на мітрапаліта кіеўскага і з таго часу пачалася надзвычай плённая дзейнасць энергічнага і дзелавога ўладыкі. Ён дамогся ў караля поўнай легалізацыі дзейнасці ўсяго праваслаўнага духавенства на чале з яго іерархіяй і фармальнага раўнапраўя яго з уніяцкім касцёлам. На падстае атрыманых ад караля грамат і пры дапамозе каралеўскіх спецыяльных камісій пераймаў ад уніятаў захопленыя імі праваслаўныя храмы, манастыры, школы, шпіталі, прытулкі, царкоўную маёмасць, між іншым у Бельску-Падляшскім. Адбудоўваў і абнаўляў зруйнаваныя уніятамі вернутыя святыні, манастыры, школы, друкарні і іншыя аб'екты. Садзейнічаў павелічэнню манаскай брацціі, але адначасна пільна дбаў, каб пострыг прыймалі дастойныя таго людзі. Уладкоўваў унутрыманастырскае жыццё, прапанаваў манастырам здольных і ахвярных ігуменаў. Клапаціўся пра аднаўленне занепадаючых традыцый царкоўнага мастацтва: іканапісу, фрэскавага роспісу, залатарства, чаканкі па металу і гэтак далей. Быў першым духоўным археолагам, бо адкапаў славутую Дзесяцінную царкву ў Кіеве, у якой спачывалі мошчы святога роўнаапостальскага князя Уладзіміра, хрысціцеля Русі, знайшоў частку мошчаў, адбудаваў царкву, а прадчуваючы сваю канчыну, забяспечыў сродкі на заканчэнне адбудовы і абсталяванне яе. Адбудаваў і аднавіў славуты Сафійскі сабор у Кіеве і многа іншых храмаў на ўкраінскіх і беларускіх землях.

У караля Уладзіслава IV выхадзіў прывілею на пераўтварэнне брацкай кіеўскай школы ў Акадэмію, аднак канцлеры Заджык і Замойскі не дапусцілі да выдання такога акту. Але ўладыка Пётр наперакор усяму сарганізаваў вышэйшую праваслаўную школу ў Кіеве, славутую Магілянскую акадэмію, пабудаваў у кіеўскім Спаса-Увазнясенскім манастыры для яе спецыяльныя прасторныя і выдатна абсталяваныя гмахі, бурсу для незаможных студэнтаў, царкву Барыса і Глеба для навучэнцаў, заснаваў бібліятэку. Другую такую школу ўтварыў у Вінніцы, а за ягонай парадай, дзякуючы ахвярнасці заможнай Раіны Саламярэцкай у яе мястэчку Гайсчы пад Луцкам быў заснаваны манастыр і пры ім калегія. Напісаў і выдаў практычнае жыццёвае настаўленне выхаванцам гэтых школ. Давалася ўсё гэта Пятру Магіле вельмі цяжка. Ён пісаў у 1640 г. мінскаму брацтву: *Я пераношу тут вялікі пераслед, зноў пачалі ўчыняць над намі тыранію і праліваць кроў... Злучы на тое, што ў маім калегіуме навучаецца вялікае мноства рускай* (г.зн. украінскай і беларускай — М. Г.) *моладзі і баючыся, што гэтыя юнакі, зглыбіўшы навукі, могуць паказаць праўду ўсяму свету і дзейсна абараняць святую Царкву.* Наколькі вялікім аўтарытэтам і папулярнасцю карысталіся Магілянскія школы, сведчыць тое, што езуіты спецыяльна заснавалі ў Кіеве сваю акадэмію, хаця і не мелі для яе вучняў, абы толькі процістаяцца праваслаўным школам.

Пры мітрапаліце Магіле наступіла грунтоўнае добраўпарадкаванне ўнутрыцаркоўнага жыцця, павысілася асабістая адказнасць сярод духавенства за сваю службу, яго духоўная выхаваўчая праца. Выйшла з брацкіх і мітрапалічай друкарань многа не толькі літургічнай, але і прапаведніцкай праваслаўнай літаратуры, сам уладыка напісаў некалькі грунтоўных кніг аб Праваслаўі. Выдатна дапамог ажыўленню праваслаўнага духовага жыцця сабор, які мітрапаліт Пётр правёў у 1640 г. у Кіеве.

Памёр мітрапаліт Пётр Магіла на 50-м годзе жыцця 1 студзеня 1647 г. Імя яго — адна з найпрыгажэйшых аздобаў Праваслаўя на свеце. Ён быў сапраўдным пасланцом Неба на паратунак Праваслаўю.

**Мікола Гайдук**

# Беластоцкаму мясакамбінату — 35 гадоў!

**Беластоцкі мясакамбінат (ПМБ) лічыцца ў мясной прамысловасці найбольш экспансіўнай фірмай на экспартным рынку. У яго найлепш разбудаваная сетка рознічнага продажу. Камбінат пабудаваў сваю пякарню, з'яўляецца таксама адзіным айчынным вытворцам мясных вырабаў з дзічыны, а сваім работнікам прапануе самыя высокія ў прамысловасці зарплаты.**

**У канцы жніўня 1997 г. фірма святкавала юбілей 35-гадовай дзейнасці. З гэтай нагоды беластоцкі ваявода сарака пяці працаўнікам прадпрыемства прысвоіў званні „Заслужаны для Беласточчыны", а прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч даслаў кіраўніцтву і рабочаму калектыву ПМБ самыя лепшыя віншаванні і пажаданні плённай працы.**

Паспрабуйма пакрысе вярнуцца ў мінулае, пагартаць старонкі гісторыі і прыглядзіцца як прадпрыемства на працягу 35-гадовай дзейнасці дабівалася сваіх поспехаў.

Беластокі мясакамбінат быў пабудаваны ў 1962 годзе і лічыўся тады самай сучаснай фірмай. Пробны пуск праводзіўся ў жніўні 1962 года і абымаў забой жывёлы, разборку паўтушаў і выхалоджванне мяса. Вытворчасць пачалася ў чацвёртым квартале, а афіцыйнае адкрыццё прадпрыемства адбылося ў снежні 1962 года.

Многія праблемы нагрувашчваліся тады перад кіраўніцтвам новазбудаванага завода. Апрача цяжкасцей, звязаных з пабудовай, асноўнай справай стала падрыхтоўка кадраў, а таксама распрацоўка арганізацыйных структур прадпрыемства. Адпаведных кадраў у той жа час на Беласточчыне не было. Арганізаванне для рабочых прафесіянальнага абучэння праводзілася на мясных заводах суседніх ваяводстваў. З часам і гэтую справу пачалі вырашаць на месцы, а на мясцовым рынку працы з'явіліся першыя выпускнікі сваёй прафесіянальнай школы, якая рыхтуе спецыялістаў па мясной вытворчасці.

У 1969—1970 гадах Акруговае мясное прадпрыемства ў Беластоку лічылася вядучым у краіне і чарговыя тры гады (1975—1977) дасягала самых высокіх тэхналагічна-эканамічных рэзультатаў, у выніку чаго заваявала пераходны сцяг прэм'ер-міністра і старшыні Цэнтральнай рады прафсаюзаў.

На апошнія гады трыццацігадовай дзейнасці фірме прыйшлося прывучацца да рыначнай эканомікі. Толькі нешматлікія адолелі суровыя правілы рынку ў пачатковых гадах трансфармацыі. Беластоцкі мясакамбінат не толькі перамог цяжкасці, але і стаў краёвым лідэрам у галіне мясной прамысловасці.

У 1989 годзе ПМБ дабілася першага прыбытку, які поўнасцю быў прызначаны на закупку сучаснай тэхналагічнай лініі для забою жывёлы, магутнасцю 240 штук у гадзіну. Дзякуючы гэтай лініі забой жывёлы пачаў адбывацца ў больш гуманітарных і цывілізаваных умовах.

Пасля нейкага часу ПМБ закупіла аўтаматызаваную лінію для разбору свіных паўтушаў магутнасцю 170 тон у гадзіну. Ад 1989 г. па сённяшні дзень у фірме было адноўлена 80% машыннага парка. У перыяд трансфармацыі прадпрыемства ўваходзіла з суперсучаснымі машынамі і высокакваліфікаванымі кадрамі.

Беластоцкі ПМБ сваёй паслугова-гандлёвай дзейнасцю абымае зараз чатыры ваяводствы: Беластоцкае, Сувальскае, Ломжынскае і Бяльска-падляшскае. На той тэрыторыі размешчаны 43 фірменныя крамы, якія маюць магчымасць аптовага продажу. З гэтага ліку 11 пунктаў лічыцца вялікімі супермаркетамі, якія забяспечаны багатым асартыментам харчовых прадуктаў і прамысловых тавараў. Арганізуючы такія аграмадныя магазіны, Беластоцкі мясакамбінат ужо рыхтуецца да саперніцтва з канкурэнцыйнымі заходнееўрапейскімі супермаркетамі, якіх пакуль што няма ў Беластоку, але ўжо вядзецца продаж грунтаў пад іх пабудову.

Фірменныя крамы ПМБ прадаюць на сённяшні дзень 130 тон мясных вырабаў у 200 відах і каля 4 тоны хлеба і булачных вырабаў у 40 відах. Штомесячна ў сярэднім з'яўляецца сем-восем новых відаў мясапрадуктаў.

Маючы на ўвазе патрэбы спажыўцоў і рынку, ПМБ увяло продаж фасаваных мясных вырабаў у вакуумнай упакоўцы, якія рыхтуе пяць сучасных ліній.

Мясныя вырабы Беластоцкага мясакамбіната вядомыя ў краіне і за граніцай. У іх асаблівы смак і карыстаюцца яны вялікім поспехам на сталічным рынку, як і ў іншых гарадах краіны. Аднак найбольш цэняцца вырабы з дзічыны, якіх прадаецца 300—400 кг у дзень. І хоць гэта тавар не такі ўжо танны, усё больш спажыўцоў купляе яго на айчынным і заграничным рынку. Аб папулярнасці вырабаў з дзічыны сведчаць многія ведамасныя ўзнагароды, якія былі ім прысвоены на харчовых кірмашах і конкурсах.

У ПМБ працуе 2 200 чалавек, з чаго 600 у рознічным гандлі, 150 у транспарце, апошнія — у вытворчасці. Работнікі мяснога прадпрыемства — у большасці выпускнікі школы, якая рыхтуе спецыялістаў па мясной прамысловасці і гандлі. У гэтым калектыве працуе 40 ветэранаў працы, якія звязаліся з фірмай з першых дзён яе існавання.

— Мясакамбінат можна лічыць сямейнай фірмай, — гаворыць Мар'юш Барсук, намеснік дырэктара па справах гандлю і маркетынгу. — Ля адной прадукцыйнай лініі стаяць бацькі і дзеці, а нават унукі нашых пенсіянераў. Такім чынам захоўваецца магчымасць перадачы прафесіянальных ведаў з пакалення на пакаленне, а гэта дазваляе фарміраваць у рабочым калектыве належныя міжлюдскія суадносіны.

— Скажыце, калі ласка, як забяспечваеце прадпрыемства сыравінай, патрэбнай для вытворчасці мясных вырабаў? — пытаю дырэктара Барсука.

— Скупку жывёлы праводзім у многіх вёсках Беласточчыны, у прыватных гаспадарках, дзе адкорм свіней адбываецца традыцыйным, гаспадарскім спосабам. Гэтыя фактары гарантуюць нам экалагічную сыравіну, як і ўплываюць на непаўторны смак мяса. Вядзем кантрактацыю, а нашы сталыя пастаўшчыкі пражываюць у незабруджаных мясцінах, раскінутых паміж Белавежскай і Кнышынскай пушчамі. Калі не хапае нам мяса для перапрацоўкі, купляем у Агенцтве сельскагаспадарчага рынку.

— Што экспартуеце на ўсходні рынак?

— Каля 30% усяе прададзенай вытворчасці — гэта экспарт, — гаворыць дырэктар М. Барсук. — З гэтага ліку каля 75—80% прыпадае на ўсходні рынак. Найбольшымі нашымі контрагентамі з'яўляюцца Масква і Санкт-Пецярбург у Расіі, а таксама Баку ў Азербайджане. Штомесячна пасылаем туды каля 3,5—4 тон мясных вырабаў. Для ўсходніх пакупнікоў апрацавалі мы спецыяльныя віды каўбас „Отдельная" і „Копчёная".

— Як бачыце гандлёвыя суадносіны з Беларуссю?

— Гандаль з Беларуссю пакуль што ў нас мінімальны. Не дазваляюць на гэта законныя працэдуры. Спадзяемся, аднак, што ў недалёкай будучыні ўсё адменіцца.

— Што ў асноўным паўплавала на поспех і вялікія дасягненні вашай фірмы?

— На маю думку, — гаворыць дырэктар М. Барсук, — гэта стабільнасць і высокія кваліфікацыі працоўнага калектыву, а перад усім кіраўніцтва. У 1993 годзе, схіляючыся да прапановы Рады працаўнікоў, беластоцкі ваявода заключыў з прадпрыемствам дагавор на адзінаначалле ў кіраванні прадпрыемствам. Такім чынам дырэктар Лешэк Садоўскі ўсе рашэнні падымае зараз сам. Ён — вядомы спецыяліст, дасканала разумее патрэбы прадпрыемства, працоўнага калектыву і рынку. Не без значэння застаецца і тое, што ў кіраўніцтве праведзены падзел абавязкаў і кожны з намеснікаў дырэктара адказвае за сваю вузкую дзялянку. Дзякуючы такому падзелу працы прадпрыемства паспяхова выконвае свае заданні і дабіваецца поспехаў. І апошняя справа: рэнтабельнасць нашай фірмы. Калі ў 1991 годзе экспартавалі мы на суму 4 582 тыс. зл., дык у 1994 прадалі ўжо на суму 9 036 тыс., а ў 1996 — 84 106 тыс. зл. У агульным маштабе ў пачатку дзевяностых гадоў мы прадалі за 68 600 тыс., а ў 1996 г. закончылі сумай 29 7714 тыс. злотых.

Як мяркуе праўленне фірмы, сёлетні продаж, мабыць, у параўнанні да леташняга завершыцца ў 140%, значыцца, будзе гэта чарговы чацвёрты год такога вялікага росту продажу.

Многае можна было б напісаць яшчэ аб дзейнасці і поспехах Беластоцкага мясакамбіната. Завяршаючы, аднак, сваю публікацыю з нагоды юбілею, застаецца пажадаць рабочаму калектыву і кіраўніцтву фірмы самых плённых дасягненняў у далейшай працы, а сабе, як пакупніку, нізкіх цэнаў і смакавітых вырабаў.

**Уладзімір Сідарук**

# Інтрыгі за кошт жыхароў Шчытоў

У Шчытах-Навадворах і Шчытах-Дзенцілове ў ліпені цэлы тыдзень не было вады, бо водаправод перакрыў мясцовы СКР. Шчасце, што пажар ад маланкі ўспыхнуў на наступным тыдні, калі вада ў гідрантах ужо была.

Гаворыць солтыс Шчытоў-Навадвораў **Пятро Бяроза**:

— Калі СКР спыніў пастаўку вады, паехалі мы ў Бельск, каб паскардзіцца санітарна-эпідэміялагічнай станцыі і тамашняй паліцыі. Потым на скрыжаванні вясковых вуліц і ў прысутнасці камендanta паліцыі адбылася сустрэча ўсхваляваных сялян са сташынёю СКРа. Справа заключаецца ў тым, што на тэрыторыі СКРаўскай фермы знаходзіцца гідрафорня, якая забяспечвае вадой таксама жыхароў вёскі. У выніку бурлівага мітынгу і дзеяннеў санэпідэмстанцыі ваду зноў сталі пастаўляць, але справай зацікавіўся пракурор і вяскоўцы чакаюць судовага працэсу ў Бельску.

Чарговая праблема Шчытоў — гэта знішчэнне брукаванай вясковай вуліцы, якою СКР цяжкімі цыстэрнамі вывозіць гнаявую жыжку на непадалёкае поле, у выніку чаго забруджваецца наваколльнае асяроддзе.

Гавораць жыхары Шчытоў-Навадвораў:

— Хаця СКРаўская маёмасць паўстала з сялянскіх фондаў, і хаця ўжо некалькі гадоў будынкі былой базы што і раз перадаюцца ў арэнду чарговай фірме, сяляне ад гэтага не маюць ніякай карысці. Баліць нам душа, бо СКР ужо дзесяць гадоў нішчыць нам брук 12-тоннымі цыстэрнамі, якімі вывозіць жыжку і выліване 200-300 метраў за вёскай. З поля жыжка сплывае ў роў і пасля дажджу вяртаецца ў вёску і цячэ далей у стаў і ў рэчку Арлянку. Жыжка застойваецца ў равах каля лугоў, на якіх пасвяцца нашы каровы. Гэта папросту звычайнае хамства!

Гаворыць лекар **Анна Тапалеўская** — дырэктар Санітарна-эпідэміялагічнай станцыі ў Бельску-Падляшскім:

— З дакументаў вынікае, што вада з'яўляецца ўласнасцю СКРа, а Гмінная ўправа заключыла толькі дамову аб пастаўцы вады жыхарам абедзвюх вёсак. Такім чынам вясковая водаправодная лінія была падключана да СКРаўскай гідрафорні. 17 лютага года загадалі мы СКРу палепшыць якасць вады (зменшыць, між іншым, колькасць жалеза з 2,04 да 0,5 міліграма на літр). У адказ на гэта старшыня СКРа Мікалай Мартыновіч паведаміў пісьмова войту гміны Міхалу Іванчуку, што ягоная фірма не паспее ў назначаны санэпідэмстанцыяй тэрмін палепшыць якасць вады, бо на гэта не дазваляе тэхнічны стан водаправоднага абсталявання. Санэпідэмстанцыя пасля гэтага тэрміну папярэдзіла пісьмова СКР, але ягоны старшыня адказаў нам, што нашых загадаў не выканае, паколькі кошты рамонту перасягаюць фінансавыя магчымасці СКРа. У выніку аштрафавалі мы старшыню на 100 зл. і ягоную фірму на 500 зл. Потым СКР падаў на апеляцыю, але Ваяводскі санітарны інспектар 28 ліпеня падтрымаў наша рашэнне і штрафу не зняў. Тады СКР перакрыў водаправод на тыдзень часу, тлумачачы гэта дзеяннямі санэпідэмстанцыі. Прыйшлося мне тады паведаміць аб гэтым пракуратуру, паколькі такая сітуацыя стварае эпідэміялагічную небяспеку і пагражае здароўю людзей. Шэф СКРа толькі тады адкрыў ваду. Наша роля — прымусіць адміністрацыйнымі сродкамі тых, хто забяспечвае людзей вадой, пастаўляць ім ваду добрай якасці. Наконт вывазу жыжкі магу сказаць адно, што трэба яе вывозіць у разбаўленым стане, аб чым выразна напісана ў адпаведных законах. Наша санэпідэмстанцыя зоймецца вывучэннем гэтай справы.

— Дзякую за размову.

**Гутарыў Міхал Мінцэвіч**

PS. З 1 верасня г.г. СКР па фінансавых прычынах парваў дамову з Гміннай упраўай у Орлі і цяпер за стан эксплуатацыі гідрафорні і якасць пітнай вады, якой карыстаюцца жыхары абедзвюх вёсак, адказвае выключна арлянская гмінная адміністрацыя. Адказныя за стан вады змяніліся толькі на паперы. Каб змяніць сітуацыю, трэба было б адрамантаваць СКРаўскую гідрафорню або падключыць водаправодную сетку да адлеглай на 5 кіламетраў гідрафорні ў Орлі. Але пра Шчыты гмінныя ўлады не клапоцяцца. Няма таксама каму заступіцца за жыхарамі гэтых вёсак на сесіях Гміннай рады, паколькі пасля смерці Аркадзія Пасынюка ў студзені г.г. Гмінная ўправа не назначыла яшчэ новага радната.

Змяніўся толькі спосаб вывазу жыжкі. Цяпер СКР вывозіць яе ўжо на свае апусцелыя па ўборцы ўраджаю палі.

**М. М.**

# Парнасік

## Восень і разважанні

Восень, а на двары цёпла;
Ці гэта дрэнна ці добра?
Прырода ведае што нам даваць
І таму будзем яе шанаваць.
Сяляне аруць поле і зерне сеюць,
Часта і веюць,
Каб чыстае яно ўзышло
І праз нязэлы год добры плён дало.
Добра, каб і дождж зямлю
прамачыў,
Каб раслінны свет нанова ажыў.
Лягчэй было б весці сялянскія заняткі
І плаціць розныя складчыны
і падаткі.
Але і так Бог нас ратаваў
І ўсё неабходнае для жыцця даваў.
Сенакос быў дасканалы:
Сяляне сухое сена і атаву сабралі.
Пазней моцна задажджылася
І палявыя працы „прыкрыліся".
Здавалася, ужо патоп і канец усяму,
Не толькі чалавеку аднаму...
Аднака сонца бліснула, і на доўга,
І сяляне зажалі; хто спешна,
хто „роўна".
І хто скора з камбайнам паспяшыў,
Той насмяшыў.
Бо і сёння зерня не можа дасушыцца,
Хаця няма чаму і дзівіцца:
Бо ніхто сабе не вораг,
а заўтрашняе надвор'е —
Так, як і наша здароўе:
Сёння жывем,
А заўтра мо і памрэм.
Хто пазней выкасіў — сухое сабраў,
Бог надоўга пагоду нам даравай.
І цяпер мы чакаем дажджу,
нашага паратунку,
Хаця Уладыка мае ўсе
нашы „рахункі";
Да Яго больш прыблізіцца
І нізка Яму пакланіцца.
Восень, бульбу капаюць машынова,
Спяшаюць людзі і няскорыя
на словы.
Залатая восень, на дождж
усе чакаюць,
А што нас чакае — не знаюць.

**Мікалай Панфілюк**

## Як будзе

Ці будзе нам лепей,
Трудна мне сказаці,
Адны пакінуць крэслы,
Другія будуць іх займаці.
Усім трэба плаціці:
З нас грошы сцягаці,
Пэўна цяпер будуць
Падаткі павышаці.
Тыя ўжо адыдуць,
Што грошай набралі.
Мы цяперка будзем
Усіх другіх успамагалі.
Нам лепей не будзе,
Гэта ўсім трэба знаці,
Будзе цяпер лепей
З нас шкуру здзіраці.
Тыя ўсе прывыклі
Што на крэслы ўлезлі.
Каб нас абдурыці,
Сабе бізнес зрабіці.
Мае дарагія людзі,
Хачу вам сказаці:
Усіх тых з вярхушкі
Трэба палкай гнаці!
Усім нам з'яднацца
Ды ім не паддацца,
А ў нашай дзяржаве
Парадкам заняцца.
Тых што ўсе калоцяць
Ад карыта гнаці!
І дабрабыт у дзяржаве
Трэба нам ствараці.

**Мікалай Лук'янюк**

## Маналог прэзідэнта

Атрымаў я ўладу
у краіне нашай
Больш за царскую, калісьці.
Раблю усё для карысці
і сваёй і вашай.
Даў вам сцяг і герб свой,
каб вы гэта мелі
ды добра разумелі.
Хоць жыцця я не палепшыў,
што было і тое *спепшыў*
Але ж тое, што зрабіў я,
пазайздросціў бы і Гітлер...
За яго вышэй я буду.
Яго навуку не забуду.
Вывучыў усё на яць
як рэферэндумы ствараць,
каб уладу шанаваць.
Вывучыў усё да ладу,
як трэба трымаць уладу,
як народ трымаць прымусам
нашых дурняў — беларусаў.
Я праводжу рэферэндум,
зраблю парламент у дзве палаты
Сваіх людзей пашлю заўзятых...
І замоўкнуць дэмакраты...
Непаслухмяных — за краты,
для паслухмяных дам дачы,
замежныя аўтамабілі,
каб прэзідэнта любілі.
Аб'яднаюся з Расіяй,
ствару імперыю большую,
стану звацца імператар,
Не скажуць, што я — дыктатар...
Калі не стану імператар, усё ж
буду Беларусі губернатар
і віцэ-прэзідэнт Расеі.
Можа, дасць Бог, у Крэмль залезу.
Буду правіць із Крамля,
бо гэта ж вялікая зямля!
Мне Зюганаў у дапамогу,
у нас адна з ім дарога.
Ён стаіць за камунізм,
Я — за рыначны сацыялізм.
Без такога сацыялізму
не збудуем камунізму.
Гэта азбука марксізму
ў пабудове камунізму.
Аб'яднаем увесь Саюз,
што распаўся неўзначай
праз нядольнага Гарбачова;
ён быў гуляка і гультай.
Жырыноўскі дапаможа
далучыць фінаў і Польшчу,
каб імперыя была большай,
як у Раманава Мікалая.
Каб вялікай быць краіне
шырыць межы бесперапынна.
Жырыноўскі гэта знае,
нам у гэтым дапамагае.
Аб'яднаем усё сялянства
створым магутнае *панства*
Я ствару трыумвірат
Будзем правіць „in tre" — трое.
і народ нам будзе рад.
Консул першы буду я,
Зюганаў — другі консул,
трэці консул — Жырыноўскі —
трыумвірат будзе маскоўскі.
Будзем правіць разам трое,
усе скажуць, што мы героі,
мудрацы валадары,
усіх народаў правадыры.
Думу думаць не заставім,
усіх на пенсію адправім.

**Сымон Шаўцоў (Аўстралія)**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! З тае надта цяжкой ночы запамяталіся мне два незвычайныя сны.

У адным мне снілася, што мой муж прывёз мне з камандзіроўкі (ён якраз выехаў) вужа боа. Я ведаю, што гэты вуж душыць людзей, і мне страшна. Раніцай я падумала, што, магчыма, гэты сон мне прысніўся таму, што вечарам я глядзела па тэлевізару праграму пра чалавека, які збіраў змяіны яд.

Другі сон быў пра боты. Ты калісьці пісаў, што калі сняцца боты, дык прадвяшчаюць яны нейкае падарожжа. А вось мне прыснілася, што ўсе боты ў нас пераблыталіся. Я гляджу, а мой бацька ідзе ў розных ботах: на левай назе ад іншай пары, на правай — ад іншай. А пасля, бачу, і я абутая таксама.

Ты, Астроне, калісь сказаў, што ад таго, які гэта быў абутак — новы, прыгожы, моцны ці стары, падзерты — такое будзе і падарожжа. А тут, глядзі ты, абутак быў новы і чысты, але не з тае пары — у бацькі адзін бацінак быў бежавы, а другі — чорны, у мяне — адзін туфель быў карычневы, а другі — нейкі шэры. Думала я думала, ды вырашыла напісаць табе, Астроне.

**Домна**

Домна! Твой першы сон, калі б не тое аглядванне тэлевізіі, мог бы абазначаць, што чакае цябе нейкі фальш, нясшчырасць ад найбліжэйшых табе людзей, якія рыхтуюць табе нейкі ўдар. А так, думаю, сон быў навеяны тэлеперадачай.

Другі сон, сапраўды, прадвяшчае падарожжа, але будзе яно нейкае няроўнае, пакручастае, аб чым сведчыць абутак з розных пар.

**Астрон**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. сход членаў арганізацыі, 8. бот без халяваў, 9. Фрыдрых, савецкі кінарэжысёр (1898—1967), 10. прылада аратага, 11. выгін, 13. Шарль, французскі паэт (1821—67), 15. Эрыку, бразільскі пісьменнік (1905—75), 16. буйная драпежная жывёліна сямейства кашэчых, 20. супрацоўленне, супрацьдзеянне, 22. Дыега, іспанскі канкістадор Перу (1478—1538), 23. маскоўскі царкоўны рэфарматар (1605—81), 27. Кастусь, беларускі паэт (1918—88), 29. японскае нацыянальнае адзенне, 30. частка зямной або воднай паверхні, 31. дзяржава з Кіншасай, 32. горад і амт у Даніі, 33. сталіца Францыі, 34. паліва.

**Вертыкальна:** 1. горад у В'етнаме, 2. сцябліна, асобная расліна, 4. горад у штаце Мэрыленд, 5. спартыўная камандная гульня з авальным мячом, 6. Жоржы, бразільскі пісьменнік (нар. у 1912 г.), 7. Іван, беларускі пісьменнік (1921—76), 12. Хасэ, іспанскі пісьменнік (1895—1983), 14. рака ў Бразіліі, 16. натуральны падатак на даўнім Паволжы, Сібіры і Далёкім Усходзе, 17. горад на Дунаі ў Бадэн-Вюртэмбергу, 18. пухліна, якая ўзнікае ад лішняй вадкасці ў тканках, 19. любіць спяваць, 21. цывілізаваная спрэчка, 24. важная рака ў хрысціян, 25. Энрыке, уругвайскі пісьменнік (1900—60), 26. за Уралам, 27. плод капусты, 28. прылада для пакарання. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 35 нумара**

**Гарызантальна:** Фонда, Ваўкавыск, Берут, адсек, Мэё, брашура, Радрыга, туш, скарб, Ліван, Антановіч, Асвея.

**Вертыкальна:** андантэ, Фауст, Атыла, верашчака, Каспровіч, Барыс, Кагон, мат, ёрш, Уланава, бітва, Лівія.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму і Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# Наша пошта

## Добры дзень, газета „Ніва"!

Піша вам чытач з Вільні. Мне вельмі падабаецца ваша газета. Дзякуючы яе можна даведацца як жывуць і працуюць беларусы ў Польшчы. Ваш адрас прыслала мне старшыня Згуртавання беларусаў свету Ганна Сурмач, якая напісала, што цераз вашу газету можна даць свой адрас і знайсці сяброў па перапісцы.

Я хацеў бы перапісвацца з беларусамі з Беластока і іншых мясцін Польшчы. Мне трыццаць два гады, кавалер. Жыву з бацькам у двухпакаёвай кватэры. Бацька — пенсіянер, а я працую на заводзе „Нерыс". Мы рамантуем вагоны і робім заказы для Германіі і Швецыі.

Я вельмі цікаўлюся беларускасцю, люблю спяваць, слухаць касеты беларускіх фальклорных калектываў, чытаць беларускія кнігі. Мы з дзядзькам Юрам ездзім па Літве і запісваем па вёсках беларускія песні. Люблю рыбачыць, хадзіць па грыбы, падарожнічаць. Памагаю бацьку ў садзе і дома. Люблю дзяцей, люблю таксама варыць. Даю свой адрас са спадзяваннем, што можа нехта напіша.

Игорь Ахрамович
ул. Парко 7 кв. 12
Вильнюс
Литва
2041


# Ніва

„Niwa", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1998 r. upływa 5 grudnia 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na I kwartał 1988 r. wynosi 13 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

**Фрашкі пра нашых**

## Сексбомбасховішча

Схаваўся Мішка, ды зусім блізка;
Дзе гладка грудка, дзе цёпла міска...

**Вандал Арлянскі**

## Думкі ў час мігрэні

* І ў шчасці, і ў бядзе слёзы тыя самыя, але не такія самыя.
* Каханне па жаданні не прыходзіць.
* Разумны свой язык стрымлівае, дурань — распускае.
* Догмат — пастка для розуму.
* Мужчына абавязкова патрэбны жанчыне, інакш яна не ведала б, праз каго пакутуе ў жыцці.
* У касцёле моліцца: „Адпусці мне, Божа, грахі, як і я сваім віноўнікам адпускаю", а выйдзе на вуліцу і ў галаве яму толькі адно: люстрацыя! дэкамунізацыя!

**Пётр Байко**

Малюнак В. КЛЮЧНІКА

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

У піўнушцы сустракаюцца два сябры:
— Чаму ты такі прыгнечаны? — пытае адзін.
— Маю праблему: заседзеўся ўчора ў піўной з Эдвардам і ён так напіўся, што я быў вымушаны адвезці яго дадому.
— І што сталася?
— Нічога асаблівага: вывалак я яго з таксі, зацягнуў пад кватэру, адкрыў ягоным ключом дзверы і асцярожна палажыў у ложак побач жонкі, так, што яна нават не пачула.
— Дык што ж цябе сёння мучыць?
— Сёння ад мае жонкі я даведаўся, што Эдвард тры дні таму выехаў і яшчэ не вярнуўся.

* * *

Да беластачаніна прыехаў госць. Гулялі, хадзілі па рэстаранах; за ўсё плаціў гасцінны гаспадар. Наведалі бар і ў апошні дзень. Калі дайшло да заплаты, госць стрымаў руку гаспадара і сказаў:
— Не магу пазволіць, каб ты безупынна плаціў. Цяпер пацягнем жэрабя, хто мае сёння заплаціць.

* * *

У рэстаране наведвальнік звяртаецца да буфетчыцы:
— Колькі піва прадаеце штодзённа?
— Чатыры бочкі. А чаму пытаецеся?
— Маю спосаб, каб прадаваць два разы больш.
— Цікава, якім чынам?
— Трэба, папросту, наліваць поўнымі куфлямі.

* * *

Пад кіёскам з півам сустракаюцца два абібокі:
— Што з табою сталася, што не працуеш?
— Маю хрыпату.
— Шчаслівчык! А я лечуся ад знямогласці нырак.

* * *

Эдвард заказаў у рэстаране рыбу. Праз хвіліну кліча афіцыянта:
— Яшчэ адно вялікае піва; рыбка хоча піць!
За суседнім столікам сядзіць паліцыянт, які есць адбіўную катлету. Спадабаўся яму заказ суседа і таксама кліча афіцыянта:
— І мне адно піва; свінка хоча піць!

* * *

Іван з Андрэем зайшлі ў піўнушку і заказалі піва. Іван зрабіў яшчэ засцярогу:
— Толькі каб у чыстым куфлі!
Праз хвіліну афіцыянт прыносіць піва і пытае:
— Каму ў чыстым куфлі?

Сцяпан Абух

# З запісаў нацыяналіста

**23. Прамова Сычу**

(*моцна, гучна і ўпэўнена*) Ад імя Галоўнага органу Асацыяцыі народнай песні і танца вітаю вас, песнелюбівыя зонаўцы, на чарговым песенным шэсці, арганізаваным Галоўным органам нашай Асацыяцыі. З песняй мы ідзём, з песняй мы памром! (*узвесціць голас — воплескі*)

(*памяркоўна, не спяшаючы, дарэчы*) Вядома, што я — Гярман Сыч, — у Зоне найважнейшы, а мая Асацыяцыя народнай песні і танца — самы тлумны ў ёй арганізм, сто сем тысяч членаў. Усё і ўся. Ворагі мае — Даўжэня, Біч, Назарэз, — усе яны малаважныя крыкуны і не надта кемныя тэарэтыкі Зоны, без апірышча ў ейным людзе. Іхнія плявузгі, абкідванне балотам, няпрыкрытая староннясць і, наогул, брак аб'ектыўнасці ў справах нашай Асацыяцыі вартыя, сама больш, адной маёй іранічнай усмешкі. Вось, такі Даўжэня. (*ха-ха*) Ён у мяне не мае ніякага шанцу. Кожнаму вядома, што акампраметаваўся ён удзельніцтвам у антызонаўскім і наскрозь авантурыскім руху „Аўтарытарнасць" (яго памылкова завуць цяпер „Братэрствам"), а рух гэты — ведае кожнае дзіця ў Зоне, — значыў артадаксальнымі крыжыкамі жыллі зонаўскіх патрыётаў з мэтай пазнейшага іх адстрэлу. Або Айвен Біч (*хі-хі*), які не з'яўляецца нават хрысціянінам, што выдатна пацвярджаецца ў наборы людзей, якімі акружаецца ў „Гонях" („Гоні" забраліся нам не цалкам дэмакратычна, па-інтрыганцку). Яны не паходзяць ні з Замбара, ні з Брытанскай супольнасці народаў, а проста — з канца свету і ненавісная гэта Тыкан-Ва. На Лёліка Назарэза (*о-го-го*) шкада і аднаго слова — распуснік ды сорам усёй хрысціянскай Зоны! (*перапынак — публіка выказвае незадаволенасць паводзінамі Лёліка Назарэза*)

(*з абурэннем*) А каб было яшчэ жудасней, дык скажу, што мы прыватна сустракаемся ды ўзгодніваем нашы погляды. І што? Здавалася б, усё ў парадку. Але не праходзіць і тыдзень часу, як з'яўляецца новы нумар „Гоняў", у якім ізноў не перабіраюць у словах на мой конт! (*пачакаць, пакуль не суцішыцца тупат і свіст*)

(*нармальна, бо само сабой разумеецца*) Вядома, што са мною — Сычам, — кожнаму ў Зоне трэба лічыцца. А чаму? Бо я палітыкай ніколі не займаўся, не займаюся і не буду займацца. Найдаражэйшая майму сэрцу — народная песня. Як па лініі Сацыял-дэмакратыі Зоны (Сацдэмзона), так і па асабістым памкненні я паставіў сабе жыццёвую мэту — расспяваць усю Зону, колькі б гэта ні каштавала. Народная песня і культурная дзейнасць. Культурная дзейнасць і народная песня. Ура! (*пажадана дастаць з кішэні сморкаўку ды абцерці ўспатнелае чало ў знак знятужлівай працы на культурнай ніве*)

(*прыўзняўшы голас*) Кожнаму з нас ясна, што толькі адна Сацыял-дэмакратыя Зоны выступае за адраджэнне і роквіт народнай песні. Кожны ведае, што за Сацдэмзона нам лепей жылося — бо з песняй заўсёды лягчэй жывецца. І таму я кажу, што сёння добрая песня, але заўтра — нас чакае найлепшая сімфонія. Нават прысутны тут і найдаражэйшы майму сэрцу Лялечка Карачэня завучыў найпрыгажэйшыя песні Зоны. Не, песнелюбівыя зонаўцы, не трэба смяяцца. Карачэня — гэта з-за няважнага росту, а Лялечка — з-за прыгожай паняхроўнасці. Няма сумнення — імя і прозвішча тыповае для Зоны, наш ён і ўсё. Папросіце. дык ён вам і праспявае! (*перапынак — Лялечка Карачэня вітае прысутных ды спявае „Няхай жыве народная песня...", можна яму падпяваць ды пацягнуць за сабою ўсю публіку*)

(*грандыёзна, бо фінальна*) Песнелюбівыя зонаўцы! Калі я гляджу, як тлумна вы з'явіліся на гэтае чарговае наша шэсце, дык веру, што на фронце расспявання Зоны справы маюцца лепш, чым выдатна. Таму не верце нікому, хто будзе вам даказваць, што няма ўжо ў Зоне народнай песні або будзе пераконваць, што няма нашай Асацыяцыі. Гэта фальш ды ілгунства. Жыве Асацыяцыя народнай песні! Жыве народная песня! (*сыходзіць дастойна і асцярожна, зважаючы на падгнітыя ступені*)

# Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Узяцца за пяро прымусіла мяне „Ніва" н-р 39 ад 28 верасня гэтага года, а канкрэтна — рубрыка „Сардэчныя тайны" ў гэтым нумары, у якой Багдан апісваў сваё шчасце-няшчасце (дзяўчына адышла, калі ён з ёю не ажаніўся, а вярнулася з яго дзіцём).

Можа, гэта і надта рамантычная гісторыя, але ў жыцці ўсяляк бывае і не кожнаму гэта ўдаецца. Пачатак у мяне быў падобны, але пасля ўсё склалася значна горш.

Мая дзяўчына таксама была каталічка, а я — праваслаўны. Бацькі мае не былі аднак фанатыкамі і лічылі, што ў гэтых справах маладыя людзі заўсёды змогуць дагаварыцца. Галоўнае, каб яны кахалі адзін другога!

Я таксама думаў, што каханне можа перавярнуць свет дагары нагамі. Для мяне яна, гэта дзяўчына, была ўсім. Я плакаў і смяяўся, носячы яе на руках.

Мне здавалася, што і яна кахае мяне таксама моцна, як я яе, дык наконт таго, што будзе, я думаў толькі ў ружовых колерах.

Так, але я яшчэ не пісаў пра бацькоў дзяўчыны. Паходзілі яны з невялікага засценка, а справы рэлігіі былі для іх найважнейшыя. Усё падпарадкоўвалі гэтым справам, у касцёле праводзілі лепшыя хвіліны іх жыцця. Шкада, што я пра гэта даведаўся толькі тады, калі мы пачалі гаварыць пра шлюб.

Мае бацькі гаварылі, што калі мы рознай веры, дык, можа, найлепш было б узяць толькі цывільны шлюб, і тады нікому не было б крыўдна. Я нават з гэтым згаджаўся, а яна — нізавошта. Бацькі, казала, ніколі не згодзяцца, каб я жыла ў граху, без каталіцкага шлюбу. Мы ўжо даўнавата жылі з ёю, як муж з жонкай, і я нават усміхнуўся, калі яна сказала пра грэх. Але зразумей, Сэрцайка, я ж яе кахаў...

Міналі дні, між намі пачало нешта псавацца. Мая найдаражэйшая хадзіла надутая, абражаная на ўвесь свет, а што ўжо гаварыць пра маіх бацькоў. Нарэшце я не вытрымаў. У касцёл, кажу, не пайду! Я сказаў гэта, здаецца, больш на злосць дзяўчыне, для якой касцёл стаяў упоперак дарогі да яе шчасця. Так папраўдзе, касцёл мне нічога кепскага не зрабіў і яе вера мне была абыякавая. Няхай ходзіць, куды хоча, а я — куды хачу, але высветлілася, што для маёй дзяўчыны і яе бацькоў была гэта справа жыцця і смерці.

Больш мы ўжо не сустракаліся. Я прабаваў яшчэ пазваньваць ёй, але яна не згаджалася на сустрэчу. Мне было без яе так цяжка, што я нават гатоў быў ісці ў мячэць, а не толькі ў касцёл. Усё ж такі два гады яна была для мяне адзінай зоркай, наймілейшай дзяўчынай, маім каханнем.

І тады я даведаўся, што мая дзяўчына выходзіць замуж. Вядома, быў гэта католік. Я знайшоў у сабе сілы, купіў вялізны букет кветак і прынёс ёй на шлюб у касцёл. Яна толькі заморгала сваімі вялікімі расніцамі, і я не зразумеў — ад шчасця ці ад гора — паплылі па яе вачах слёзы.

Неўзабаве пасля шлюбу яны выехалі ў Варшаву, дзе працаваў яе муж, і я ўжо мала што пра яе чуў. Я ўспамінаў разам праведзеныя хвіліны, чуллівыя позіркі, пяшчоты, пацалункі — і маё сэрца аблівалася крывёю. Я тут адзін, а яна там, у той Варшаве, у пасцелі з іншым... Божа, ці ты ёсць на свеце?! Я пачынаў сумнявацца.

А цяпер будзе канец майго апавядання. У нечым напамінае ён аповед Багдана. На парозе нашай хаты, калі пазванілі ў дзверы, была яна — з немаўляткам на руках, з дарожнай сумкай. Была аднак розніца: дзіця было ягонае, яе мужа. Няглядзячы на гэта, не магла яна жыць з нялюбым. І вось вярнулася да мяне, каб жыць, як сказала, з каханым, а не з тым, за каго выйшла замуж. Не пайшла да бацькоў, бо баялася, што ізноў нас разлучаць.

Мае бацькі былі расчуленыя яе каханнем і без ніякага прынялі яе ў сваю хату. Да мяне вярнулася радасць жыцця. Нядаўна ў нас нарадзіўся сынок, брацік першай дзяўчынкі. Цяпер афармляем усё, каб узяць шлюб (развод ужо ёсць). Дзяўчынку ўся сям'я таксама любіць, быццам бы яна была мая. Яе бацькі не паяўляюцца, але, відаць, мая жонка ўжо гэта перажыла.

**Андрэй**

Андрэй! Вось бачыш, перамагло каханне. Я ж і кажу...

**Сэрцайка**

PS. Мо варта ўжо наведаць яе бацькоў у іх засценку...

**С.**